PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 35 (2155) Год XLII Беласток 31 жніўня 1997 г. Цана 1 зл.



Спаса-Праабражэнская царква на Святой Гары Грабарцы.

# На Грабарку

## Выхад паломніцтва

У сераду, 13 жніўня, з Ільінскай царквы ў Дайлідах адправілася спасаўскае пешае паломніцтва беластачан на Грабарку. Перад выхадам беластоцкі архірэй, палявы праваслаўны ардынарый Войска Польскага генерал Сава, у саслужэнні беластоцкага духавенства, адправіў набажэнства, а затым правеў паломнікаў. У пілігрымку падалася галоўным чынам моладзь; стаптаныя ўжо людзі старэйшага ўзросту прыйшлі ў Дайліды толькі правесці сваіх дарастаючых дзяцей. Прайшоўшы беластоцкімі вуліцамі Сухадольца, Вавёрчай і Цыялкоўскага, калона вернікаў у першым этапе накіравалася ў Кажаны.

## Накормяць і дадуць начлег

Пешыя паломніцтвы на Грабарку сталі ўжо сталым элементам краявіду ўсходняй Беласточчыны. Прымае ў іх удзел усё больш багамольцаў. Але, бадай, немагчыма было б сарганізаваць групавыя паломніцтвы без спантаннай дапамогі і гасціннасці жыхароў нашых беларускіх вёсак. Паломнікаў усюды сустракаюць з адкрытымі рукамі, накормяць, напояць і пераначуюць.

Адзін з прыпынкаў на дарозе 150 пілігрымаў з Саколкі выпаў у Вялікіх Тыневічах. Прыйшлі яны пад царкву св. Лукі ў суботу 16 жніўня пасля абеду. Сустракалі іх мясцовыя прыхаджане з настаяцелем а. Уладзімірам Саўчуком. Тыневіцкія жанчыны падбалі пра тое, каб стомленыя паломнікі не толькі адпачылі, але і падмацаваліся перад дарогай, якой заставалася яшчэ на два дні. На пастаўленых перад царквою сталах і так, проста на разасланых на траве абрусах расклалі пачастункі: свойскі хлеб, печаную рыбу, тушаную капусту з грыбамі, свежыя салодкія булкі, напіткі.

Паломнікі, сярод якіх пераважала моладзь, дзве гадзіны адпачывалі ў цяні акружаючых драўляную царкоўку сосен. Некалькі здымкаў на памяць, кароткая малітва ў царкве і зноў у дарогу — у Чыжы на начлег.

А мясцовыя звівалі абрусы, дзівавaліся і шкадавалі, што госці так мала елі.

## На Святой Гары

У гэтым годзе на Святой Гары ў Грабарцы прайшлі падвойныя святкаванні — Праабражэння Гасподняга і пяцідзесяцігоддзя тамашняга жаночага манастыра. Напярэдадні *Спаса* акружаючыя гару лясы і пустыя прасторы ўжо з самой раніцы запоўніліся палаткамі і аўтамабілямі паломнікаў, столікамі і крамамі людзей малога бізнесу. Нават навакольныя лугі і аблогі пераўтварыліся ў платныя стаянкі аўтамашын. Пры імправізаваных брамах з жэрдак стаялі тры брудныя, вульгарныя тыпы з папяросамі ў зубах, якія ўказвалі шафёрам аўтамабіляў на табліцу з інфармацыяй, што зямля, дзе дзесяткамі гадоў ставілі яны свой транспарт, цяпер прыватная, а праезд магчымы толькі за 3 злоты. Як у Афганістане. На няроўным полі адны плацілі і ехалі наперад шукаць нейкага месца, іншыя вярталіся, пры нагодзе закопваючыся ў нейкіх равах, баразнах.

Два тыдні да *Праабражэння* не было дажджу. Рух пару дзесяткаў тысяч людзей і пару тысяч аўтамабіляў падымаў у верх тоны пылу. Нават над традыцыйна зялёнай Святой Гарой вісела сівое воблака.

Перад абедам у папрамку Праабражэнскай царквы пачалі набліжацца калоны паломнікаў. Найбольшая, шматтысячная група прыйшла з Беластока. Большасць на каленях і з вялікай пакорлівасцю акружала святыню.

Пару гадзін да вячэрняй багаслужбы на дрэвах, што знаходзяцца на Святой Гары, і на манастырскіх будынках з'явіліся выбарчыя плакаты Славянскай нацыянальнай меншасці і вялікія партрэты лідэра гэтай арганізацыі Яўгена Чыквіна. На змярканні пару пажылых жанчын нават перахрысціліся перад выявай Чыквіна, будучы перакананымі, што на дрэве вісіць нейкая ікона Збавіцеля. Праваслаўны электарат мог таксама набыць кніжку старшыні славянскай меншасці „Byłem prawosławnym posłem”.

[працяг ☞ 9]

## У нумары

# Мы прачыталі

*Ludzi z charakterem w polskiej polityce można policzyć na palcach jednej ręki. Cała reszta to pospolite ruszenie. W Sejmie koledzy bronią posła-pijaczka, jaki spowodował wypadek, jadąc zygzakiem samochodem. Działanie immunitetu przy pospolitym przestępstwie tak kompromitującej natury jest zdumiewającym wynalazkiem. Minister, oskarżony przez wysokonakładowy dziennik o próbę wzięcia łapówki, nadal jest ministrem. Minister spokojnie urzędował, kiedy policja poszukiwała go za oszustwa. Na granicach połączone siły władzy stosują z sukcesem prywatne taryfy celne i myto za przejazd kradzionych samochodów. Nie ma tam jakoś masowych aresztowań. Państwowy Fundusz Rehabilitacji Osób Niepełnosprawnych zdefraudował 430 miliardów złotych. Wymieniono kilku prezesów, poza tym włos nie spadł im z głowy. Skromnie uposażeni urzędnicy państwowi budują pałace, jeżdżą świetnymi samochodami. Nie budzą zainteresowania władz, które zwykłemu obywatelowi potrafią wyciągnąć każde 10 groszy z kieszeni.*

*Kurier Poranny, nr 183*

* * *

*Członek jednostki ochotniczej straży w Pogorzelach gm. Sejny wsiadł do wozu ratowniczego stojącego w remizie i ruszył do gaszenia pożaru, którego nie było. Zaraz po starcie uderzył w róg budynku i zrezygnowawszy zasnął za kierownicą. We krwi miał 3,61 promila alkoholu.*

*Gazeta w Białymstoku, nr 189*

З прычыны п'янства забыўся раней нешта падпаліць.

* * *

*Rozkładające się ciała zwierząt padłych w czasie powodzi zostaną przerobione na mydło i kosmetyki. Maseczka z padliny będzie reklamowana jako polski krem, najdelikatniejszy na świecie.*

*Przegląd Tygodniowy, nr 32*

* * *

*Мы, дэлегаты II-га з'езда „Бацькаўшчыны", зразумелі, з якой мэтай быў скліканы наш сход. Яго ідэі маюць дэструктыўны характар і накіраваны на падрыў ідэі і намаганняў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнкі па аб'яднанню славянскіх і брацкіх народаў на постсавецкай прасторы. Народны прэзідэнт Беларусі і кіруемы ім урад робяць усё, каб палепшыць жыццёвы ўзровень свайго народа і выканаць яго волю па аб'яднанню славянскіх і брацкіх народаў былой нашай Вялікай Радзімы,* — у такім стылі напісалі вялікі зварот да „Прэзідэнта і народа Рэспублікі Беларусь" удзельнікі II З'езду Згуртавання беларусаў свету і краін былога Савецкага Саюза.

*Голас Радзімы, н-р 32*

* * *

*W latach 1945—1951 urzędnicy Watykanu pomogli uniknąć kary setkom zbrodniarzy nazistowskich. Watykan, za przyzwoleniem Papieża, pomagał zbrodniarzom, winnym śmierci setek tysięcy osób, w ucieczce przed wymiarem sprawiedliwości. Znany z nazistowskich przekonań biskup Alois Hudal utworzył organizację „Ocalenie", która miała ratować zbrodniarzy faszystowskich. Wśród „uratowanych" znaleźli się m.in. Franz Stangl — komendant obozu koncentracyjnego w Treblince i Gustaw Wagner — komendant obozu koncentracyjnego w Sobiborze. Sprawa pomocy zbrodniarzom faszystowskim była jedną z najbardziej strzeżonych tajemnic Watykanu. Dziś Watykan nabrał wody w usta.*

*Przegląd Tygodniowy, nr 32*

* * *

*Rolnicy, którzy nie mogą sprzedać swego zboża, budzą automatycznie współczucie, ale dlaczego nie mają budzić takiego współczucia zjadacze chleba, którzy go kupią za wywindowaną cenę i coraz gorszej jakości?* — пытае

*Gazeta Wyborcza, nr 188*

* * *

*Panuje przekonanie, że nauką w Polsce zajmują się albo idealiści, albo ludzie niezaradni życiowo. Pierwsi odczuwają jedynie głód wiedzy i wyżyją za najmarniejsze pieniądze. Drudzy wegetują w instytucjach naukowych, ponieważ nie potrafią znaleźć bardziej dochodowego zajęcia. Jest jeszcze trzecia grupa. Ci wygarniają z budżetu nauki duże pieniądze, a kwitują je utworami wątpliwej wartości poznawczej, niekiedy sprzedawanymi po wielokroć, ale nigdy tanio. Sowicie opłacane ekspertyzy są wieńczone ogólnikowymi stwierdzeniami utrzymanymi w konwencji życzeniowej, z których nic nie wynika. W nauce, podobnie jak w polityce, znakomicie prosperuje „republika kolesiów". Układy otwierają drzwi do kasy, gdzie za niewiele warte opracowania autorzy otrzymują ogromne pieniądze.*

*Polityka, nr 32*

* * *

*My, Polacy, byliśmy narodem szlacheckim. Szlachty było u nas nie dwa procent jak na Zachodzie, lecz dziewięć, a na Mazowszu drobne szlachciury stanowiły nawet większość populacji. Naród polski został też zasilony krwią szlachty ze Wschodu, o czym świadczą nazwiska największych Polaków: Mickiewicz, Kościuszko, Sienkiewicz, Piłsudski, Iwaszkiewicz, Gombrowicz — wszyscy ruskiego pochodzenia.*

*Gwiazdy mówią, nr 32.*

# З мінулага тыдня

**Урад РП** падпісаў з Еўрапейскай камісіяй фінансавы мемарандум, які дазволіць скарыстаць першую частку грошай праграмы PHARE для ліквідацыі наступстваў паводкі. Еўрапейскі Саюз згадзіўся, каб дзеля гэтага накіраваць сродкі PHARE прызначаныя на іншыя мэты. Дапамогу ад ЕС — 240 млн. зл. — атрымаюць 120 найбольш пацярпеўшых гмін.

**Беласток — варты універсітэта**, — сказаў прэзідэнт **Аляксандр Квасьнеўскі**, падпісваючы ўхвалены Сеймам закон аб стварэнні ў Беластоку самастойнага універсітэта. — Гэты універсітэт даспяваў вельмі доўга, амаль 30 гадоў, — дадаў прэм'ер-міністр **Влодзімеж Цімашэвіч**. — Універсітэт мае шанц стаць важнай навукова-дыдактычнай установай не толькі для Польшчы, але і Беларусі, Літвы. Можа адыграць незвычайную ролю, інспіруючы садзеянне ў шырэйшым, звышгранічным маштабе.

**У Польшчы** хутка падае чытальнасць прэсы. На працягу апошніх дванаццаці месяцаў газеты страцілі 6,8 млн. чытачоў. Гэтая некарысная з'ява ў большай ступені датычыць агульнакраёвых штодзёнак (на 47% зменшыўся ім лік чытачоў), чым рэгіянальнай прэсы (35%). Прычынай падзення чытальнасці газет перш за ўсё з'яўляецца камунікацыйная рэвалюцыя. Зараз газеты адыгрываюць меншую ролю ў распаўсюджванні аператыўнай інфармацыі, а людзі часцей слухаюць навін па радыё, тэлебачанні ці шукаюць іх у сетцы Інтэрнет. Змяніўся таксама спосаб жыцця, яго тэмп, а частка грамадства апынулася за рысай беднасці.

**Праваслаўны цэнтр міласэрнасці** ў Беластоку паслаў чарговы транспарт дароў для пацярпеўшых ад паводкі. Атрымаюць яны сродкі для захавання санітарыі, пледы, коўдры, хатнія рэчы, харчы, пітную ваду. Частку дароў прынеслі жыхары Беластока, рэшту ПЦМ купіў са сродкаў Сусветнай рады цэркваў. Дадаткова сяляне з Дубіч-Царкоўных ахвяравалі пацярпеўшым земляробам 10 тон збожжа. Большасць дароў атрымаюць праваслаўныя прыходы ў Вроцлаве і Малечыцах, частка дастанецца Таварыству „ЕЛІ" з Новай Солі. Гэта другі самастойны гуманітарны транспарт. Раней ПЦМ высылаў дапамогу супольна з Польскім чырвоным крыжам і каталіцкай харытатыўнай арганізацыяй „Caritas".

**2148 чалавек** з Беластоцкага ваяводства атрымалі ўжо дадаткі да пенсіі за прымусовую работу падчас нямецкай акупацыі. У першую чаргу былі яны прысвоены 80-годкам. Канчаткова такія дадаткі атрымае 6 тысяч чалавек. Зараз разглядаюцца дакументы рэпрэсіраваных асоб 1920 і пазнейшых гадоў нараджэння. Да паловы жніўня ўпаўнаважанаму Установы па справах ветэранаў і рэпрэсіраваных асоб былі перададзены амаль тры тысячы чарговых заяў з Беласточчыны.

**Акруговы музей** у Беластоку наладзіў выставу драўлянай скульптуры **Уладзіміра Наўмюка** з Канюкоў. У беластоцкай ратушы экспануецца звыш ста ягоных работ, якія прадстаўляюць постаці святых і людзей розных традыцыйных прафесій — прачак, рыбакоў, жняцоў.

**У Беларускім музеі ў Гайнаўцы** дзейнічае ўжо кавярня **„Белы сон"**. Можна ў ёй выпіць, перакусіць і пагуляць пры добрай музыцы.

**Цвярозасць** — так называлася паліцыйная акцыя нагляду за дарожным рухам падчас трохдзённага жнівеньскага уік-энду (15-18.08). На дарогах Беластоцкага ваяводства паліцыянты адабралі нецвярозым 95 вадзіцельскіх правоў. За гэты час здарыліся 32 дарожныя аварыі, у якіх загінула 6 чалавек, а 31 атрымалі цялесныя пашкоджанні. Работнікі паліцыі аштрафавалі 510 шафёраў на суму 28 345 зл.

# Весткі з Беларусі

**Тэлежурналісты за кратамі**

Чарговая група журналістаў расейскага тэлеканала ОРТ, якую ўзначальваў Анатоль Адамчук, і тэлежурналіст НТВ былі арыштаваны каля беларуска-літоўскай мяжы і сядзяць у турме ў Лідзе. Усе чацвёра абвінавачваюцца ў спробе нелегальнага перасячэння мяжы, за што пагражае прыцягненне да крымінальнай адказнасці. У Гродне прабываюць арыштаваныя тры тыдні раней за парушэнне дзяржаўнай мяжы супрацоўнікі менскага бюро ОРТ Павел Шэрэмет і Дзмітрый Завадскі, якія чакаюць судовага працэсу. Работнікі КДБ затрымалі таксама Уладзіміра Пашэнку, які нядаўна прыбыў у Менск з намерам працаваць у мясцовым бюро ОРТ. Такім чынам у беларускіх следчых ізалятарах сядзяць ужо сем расейскіх журналістаў, якія ездзілі на беларуска-літоўскую мяжу, каб у сваіх рэпартажах паказаць яе няшчыльнасць. Беларусь і Расея ствараюць адну мытную зону, а кантрабанда з Літвы цераз Беларусь пападае ў Расею, наносячы ўрон ейнаму бюджэту. Пасол Расейскай Федэрацыі ў Менску сустрэўся з прэзідэнтам Беларусі і прасіў яго вызваліць арыштаваных тэлежурналістаў. Аляксандр Лукашэнка адказаў аднак, што разбярэцца ў справе пасля судовага працэсу. Затое пасол Беларусі ў Маскве стараецца, каб у назначаным на 23 верасня пасяджэнні Савета Саюза Беларусі і Расеі ўдзельнічаў прэзідэнт Барыс Ельцын, што стварыла б Аляксандру Лукашэнку магчымасць растлумачыць свайму расейскаму калегу свае пачынанні ў адносінах да расейскіх журналістаў.

**Ужо не давяраюць прэзідэнту**

Вынікі навейшых даследаванняў грамадскай думкі ў Менску ўпершыню за тры апошнія гады, г.зн. ад пачатку прэзідэнтуры Аляксандра Лукашэнкі, паказалі, што кіраўнік дзяржавы мае больш праціўнікаў чым прыхільнікаў. Паводле газеты „Народная воля", на пытанне: „Ці давяраеце вы прэзідэнту Беларусі?" станоўча выказалася 35% апытаных, адмоўна — 37%, а 27% было нерашучых (толькі 1% рэспандэнтаў адмовіўся адказваць на гэтае пытанне). Рэдакцыя „Народнай волі" сцвярджае, што пакарысталася вынікамі апошняга апытання, праведзенага Менскім навукова-даследчым інстытутам грамадска-гаспадарчых і палітычных пытанняў, які быў створаны ўладамі краіны чатыры гады таму.

**СЕ вывучае Беларусь**

Адносіны паміж Беларуссю і еўраструктурамі знаходзяцца ў сферы палітычных, а не юрыдычных працэсаў, — сказаў прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка на сустрэчы з дэпутатам Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы Эрнстам Мюлеманам. Асноўная мэта візіту швейцарскага парламентарыя ў Беларусь — падрыхтоўка візіту новага дакладчыка па Беларусі ў СЕ Клода Фрэя. У верасні ў Парыжы на чарговым пасяджэнні Палітычнага камітэта СЕ будзе канчаткова вырашана т.зв. пытанне Беларусі. Эрнст Мюлеман заявіў, што ён гатовы аказаць садзейнічанне афіцыйнаму Менску ў наладжванні моста Захад—Беларусь.

**Экзамены ў ВНУ**

Завяршыліся ўступныя экзамены ў вышэйшых навучальных установах рэспублікі. Сёлета сярэдні конкурс па краіне ў параўнанні з мінулым годам крыху паменшыўся і склаў 2,2 чалавека на адно месца. Павысілася зацікаўленасць абітурыентаў да тэхнічных спецыяльнасцей. Самымі прэстыжнымі засталіся Беларускі дзяржаўны універсітэт, Эканамічны і Лінгвістычны універсітэты, а таксама Ваенная акадэмія. Самы вялікі конкурс — 9,3 чалавека на месца — быў на спецыяльнасць беларуская мова і літаратура на Брэсцкім дзяржаўным універсітэце.

**Шляхам экспедыцыі**

14 жніўня ў Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі адкрылася фотаэтнаграфічная выстава „Палессе, якога не ведаем". Яна знаёміць з фотаматэрыяламі і вытрымкамі з неапублікаваных рукапісаў польскага этнасацыёлага Юзэфа Абрэмбскага, які ў 1934-1937 гадах праводзіў этнаграфічныя і сацыялагічныя даследаванні ў Заходнім Палессі. Выставачная экспазіцыя складаецца з двухсот фотаздымкаў Абрэмбскага і двухсот каляровых фотаздымкаў, зробленых студэнтамі этнасацыялогіі Варшаўскага універсітэта, якія ў 1994-1996 гадах прайшлі па палескіх вёсках шляхамі экспедыцыі Абрэмбскага.

## Неўзабаве ў „Ніве"

- **Чаму за справункамі варта ехаць з Чаромхі ў Бельск-Падляшскі** — піша Уладзімір Сідарук.
- **Выбарчы фэст Беларускага саюза ў Дубічах-Царкоўных** — рэпартаж Алега Латышонка.
- **Сталін ўратаваў у 1920 г. Польшчу** — даказвае В. Петручук.

# Канец мёртвага сезона

У перадспасаўскую надзелю, у канцы аднаго з нашых багатырскіх уікэндаў, звалачыўся я ў Мастаўляны. Заехаў рана, яшчэ па дарозе падвёз бабульку, якая з перавязанаю нагою тэпала са Свіслачанаў у мастаўлянскую царкву. Пацікавіўся я ў яе, колькі вернікаў яшчэ прыходзіць туды маліцца, і даведаўся, што нямнога. Раішыў я тады і сам пабачыць тую *рэдкую* абшчыну. Да пачатку набажэнства аставалася яшчэ гадзіна і я падаўся паглядзець на вёску.

Солтысаў дом недалёка царквы. Пуста на панадворку, але ў суседняй клуні нейкая гамарня. Заходжу я туды, а там, быццам мяне толькі і чакалі, запрашаюць дапамагчы. Пажылыя два мужчыны і жанчына дужаюцца з раскідальнікам гною, намагаючыся выпхнуць яго са стадолы. Памагаю, і супольнымі сіламі ўдаецца нам дабіцца першай мэты. Бо гэта яшчэ не ўсё: трэба выпхнуць і трактар! Сам ён не зрушыцца, бо акумулятары ўжо старыя, выбіліся з сіл. Вывалакаем і трактар, гаспадар сядае за баранку, спіхаем трактар з горкі і гравітацыя прыводзіць рухавік у рух. Дачапляем раскідальнік. Пытаю гаспадароў, што яны будуць гэтым раскідальнікам рабіць: гной раскідваць? Побач ляжыць прызма гною...

— Будзем сена вазіць, — адказваюць мне.

— То і нядзелі няма вам?! — дакараю іх.

— А вось пагода якая! — адказваюць мне. — За дзень усё сена звязем.

Цікаўлюся яшчэ жнівам. З гэтым тутака клопат, цяжка дабіцца, каб камбайн прыехаў. Бо камбайнеры — вечна жывыя!

— А косамі ці снопавязалкамі не жняце? — пытаю.

— Сіл ужо на гэта не маем.

Гаспадыня прынесла мне сакавітых яблыкаў і падаліся мы кожны ў сваю дарогу. Я пайшоў далей на вёску. Ціха і прыемна тут. Праехала легкавушка, ламатнёю і пылам парушаючы гэты ўрачысты спакой. На дзе-якім панадворку таксама самаходы стаяць — на тры выхадныя дні наведалі радзіму тутэйшыя выхадцы. Пасярэдзіне вёскі, з вокнамі ў кратах, пусты будынак былой крамы. За канцом вёскі па адзін бок гасцінца пасвяцца чатыры каровы і конь, па другі — толькі дзве каровы. Больш жывіны, як кінуць вокам, не відаць. Вяртаюся. Налічыў я ў вёсцы трыццаць дамоў, у пяці няма кветак у вокнах, значыць, ніхто пастаянна ў іх не пражывае. На пяць панадворкаў ёсць выезджаны след транспарту, значыць там яшчэ нехта гаспадарыць. А ўсяго ў вёсцы, як даведаўся я раней ад сваіх тады таварышаў па заводу іхняга транспарту, пяцьдзесят пяць душ.

Перад царквою зварочваю ў вулку, што вядзе ў бок рэчкі Свіслачы, па якой тут праходзіць дзяржаўная мяжа. Побач вулкі стаяць трактарныя бароны, заржавелыя; памаленьку ўжо яны абяртаюцца ў *прах*, зарастаюць травою. За трактарнымі баронамі такое ж якасці конная касілка зарасла бярозкаю. За касілкаю карова не праяўляе вялікай цікавасці вонкавым светам; калі б не каровую прыйшлося ёй быць, а камбайнерам, шукала б пэўна толькі нагоды, каб нажлукціцца піўца або таннага вінца.

На беразе рэчкі гранічны слуп. Падыходжу да яго з пэўным хваляваннем. За ім жа — Рэспубліка Беларусь, ці не адзіная ўжо ў Еўропе дзяржава, дзе адбываецца ганенне на журналістаў; мяне ж таксама можна такім назваць. Хто ведае, ці з-за кустоў на другім беразе не выскачыць нейкі лейтэнант Нкалонга Сміт і не завалачэ, з абвінавачаннем у *незаконном пересечении государственной границы*, у гродзенскі *СИЗО*, які пастаянна паказваюць у маскоўскім тэлебачанні. Але ў мяне няма нічога супольнага ні з маскоўскім тэлебачаннем, ні з неадлеглымі яму Мыцішчамі ці Люберцамі (Мыцішчы і Люберцы гэта паняццепабрацімы польскіх Прушкава і Валаміна), магчыма канкурэнтнымі мінскім рэзідэнтам, і я *благополучно* вяртаюся ў Мастаўляны.

Іду ў царкву. Вернікаў у храме недзе пад пяцьдзесят, у тым ліку дзесяць мужчын. Prасторна, настрой узвышаны. На набажэнства прыйшлі людзі сталыя, моладзі няма. І трое неўгамонных карапузаў-дашкольнікаў. У пэўны момант адзін з іх у поўны голас заяўляе: To nie moja Bozia!

Дзіця не хлусіць. Яно гаворыць тое, чаго яго навучылі дарослыя. І выказанай вось тутака „мудрасці” навучыў дзіця той, хто *насатвараў* куміраў: адных, пэўна лепшых, сабе і другіх, пэўна горшых, другім. Вось такіх самаворных багоў і можна, быццам тым Ваалавым жрацам, валачыць, куды захочацца. Цяпер вось вельмі зручная хвіліна пасачыць за гэтай з'явай: у разгары выбарчая кампанія ў наш польскі парламент. У цэлай краіне, на Беласточчыне таксама.

**Аляксандр Вярбіцкі**



*Царква ў Мастаўлянах.* Фота з архіва

# Нашы мястэчкі і вёскі

**Вулька**

Вёска ў Арлянскай гміне ў палове дарогі з Орлі ў Бельск-Падляшскі. Напачатку жылі тут толькі баяры, якія ахоўвалі тракт з Бельска ў Камянец. У васьмідзесятыя гады мінулага стагоддзя Вульку насялілі нешматлікія жыхары вёскі Вервечкі, якую спасцігла эпідэмія халеры. Новапасяленцы мелі прозвішчы Хурса, Кірылюк-Ёдла, Таранта. Карэннымі жыхарамі вёскі з'яўляецца сям'я Жменькаў. У 1915 годзе ўсе жыхары вёскі падаліся ў бежанства ў Расію, а забудова была казакамі поўнасцю спалена. Пасля вайны пасялілася тут толькі частка колішніх жыхароў.

У Вульцы нарадзілася Зоя Сачко, паэтэса, якая піша на падляшскай мове. „Паэзія Зоі Сачко — нібы люстра, летапіс жыцця падляшскага краю, людзей, прыроды”, — сцвярджае даследчыца літаратурнага працэсу на Беласточчыне Алена Яскевіч.

Цяпер у Вульцы налічваецца 41 жыхар, з ліку якіх толькі 10 з'яўляюцца дзейнымі земляробамі.

**Спічкі**

Вёска ў Арлянскай гміне. Пачаткова было гэта некалькі раскінутых каленій, якія потым размясціліся паабапал адной дарогі. Апрача земляробства жыхары займаліся вырабам спіцаў для драўляных колаў, ад чаго і ўзялася назва вёскі.

Цяпер у вёсцы жыве 140 чалавек, у тым ліку 50 дзейных земляробаў. Узорным гаспадаром, які спецыялізуецца ў вытворчасці малака, з'яўляецца Юрый Хаманскі.

Значная частка вяскоўцаў пабудавала сваім дзецям дамы ў Бельску-Падляшскім — на адной вуліцы.

**Алекшы**

Першая пісьмовая згадка пра гэту вёску паходзіць з XVIII стагоддзя. Пісалася тады пра Olexice alias Perehoreiki. Назва вёскі выводзіцца ад імя Аляксей. Жыве цяпер там 21 чалавек, з ліку якіх 8 асоб займаюцца земляробствам. Алекшы — самая маленькая вёска ў Арлянскай гміне.

**Паўлінава**

Гэта вёска Арлянскай гміны паўстала ў пачатку XVI стагоддзя над рэчкай Нурэц, разам з дваром і фальваркам Круглэ, якія былі ўласнасцю братоў Ваноўскіх. У XIX стагоддзі двор перайшоў ва ўладанне праваслаўнага роду Шуцаў. Ад імя шанаванай прадстаўніцы гэтага роду — Паўліны, узялася сучасная назва вёскі. Да нашага часу захаваўся тут дворскі пасад і разбураная капліца на могілках. Цяпер Паўлінава налічвае 35 жыхароў, у ліку якіх ёсць 8 гаспадароў.

**Маскоўцы і калёнія Круглэ**

Пра Маскоўцы ў Арлянскай гміне згадваецца ў пісьмовых крыніцах XVII стагоддзя, а яе назва праўдападобна выводзіцца ад імя Моско. Вёска мяжуе з Вулькай-Выганоўскай. Цяпер жыве тут 91 чалавек, у тым ліку 20 земляробаў. 30 працэнтаў дамоў ужо пустуюць. Да салэцтва належыць калёнія Круглэ, дзе жыве 10 сялян з сем'ямі.



*Вяз у Маскоўцах.*

**Чэхі-Забалотныя**

Вёска ў Арлянскай гміне, 3 км на захад ад Маскоўцаў. Налічвае 44 жыхароў, у тым ліку 20 земляробаў.

**Грэдалі**

Першая згадка пра гэту вёску Арлянскай гміны паходзіць з 1576 года, калі яе жыхары гаспадарылі на 32 валоках. Назва вёскі выводзіцца ад прозвішча млынара Філіпа Грэдаля (Рэдаля), які ў другой палове XV ст. атрымаў у Бельскім старастве надзел зямлі ўздоўж ракі Белай.

Частка вёскі Грэдалі-Шпіталі ўзнікла, калі ў 1582 г. каралева Анна Ягелонка надзяліла шпіталь-прытулак пры Міхайлаўскай царкве ў Бельску чатырма валокамі зямлі пры Грэдалях. Да 1650 г. Шпіталі налічвалі 12 дамоў, а ў 1759 г. пражывала тут 6 гаспадароў. У 1925 г. насельніцтва вёскі складала 350 асоб.

У час рэпатрыяцыі 1945-1946 гг. у СССР выехала каля 80 жыхароў Грэдалёў, сярод іх 12-гадовы Серафім Андраюк. У 1966-1981 гг. быў ён навуковым супрацоўнікам Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук БССР, а з 1981 г. стаў галоўным рэдактарам выдавецтва „Мастацкая літаратура” ў Мінску.

Родам адсюль выдатныя майстры музыкі: Сяргей і Аляксандр Лукашукі ды Зянон Мартынюк — лідэр калетыву „Акцэнт”, аднаго з першых гуртоў музыкі дыска-пола.

Цяпер у Грэдалях жыве 229 чалавек, у тым ліку каля 50 дзейных гаспадароў.

**Дыдулі**

Вёска ў Арлянскай гміне пры дарозе з Грэдалёў у Краснае Сяло. Жыве тут 202 жыхароў, у тым ліку 20 земляробаў. Узорным гаспадаром, якія спецыялізуецца ў малочнай вытворчасці з'яўляецца Антон Голуб.

**Міхал Мінцэвіч**

*Фота аўтара*

# Вялікая перашкода

З вёскі Бялкі, што ў гміне Нарва, вядзе шырынёй у 12 метраў ваяводская дарога ў вёску Гвозна, што ў Міхалоўскай гміне. Гэтая дарога праходзіць цераз лес, які ў большай частцы належыць надлясніцтву Жэдня, што ў Міхалоўскай гміне.

Ля вёскі Бялкі лясныя рабочыя церабілі лес, які быў пасаджаны ў 1972 годзе, і дровы даўжынёю ў два метры паклалі на дарозе на самым павароце. Тыя бярвёны ляжаць ад вясны і ствараюць вялікую небяспеку, асабліва для легкавых машын. Праўда, гэта не надта рухлівая дарога і сюдою пераважна праязджаюць людзі толькі па грыбы і ягады, аднак гэта дарога дзяржаўнага значэння і хіба ёсць закон, каб не завальваць яе, асабліва на паваротах.

Цікава, ці надлясніцтва ў Жэдні адгукнецца на мой допіс і ці хутка ўбярэ тую перашкоду.

**Мікалай Лук'янюк**

# Каб беларусы маглі ганарыцца

**Яўген Вапа, беларускі кандыдат у Сейм Рэчы Паспалітай са спіска Уніі працы. Спісак № 1.**

Яму 32 гады, жыве ў Бельску-Падляшскім, працуе настаўнікам гісторыі ў Гайнаўскім ліцэі з беларускай мовай навучання. У 1988-1990 гадах быў старшынёй Беларускага аб'яднання студэнтаў, ад двух гадоў узначальвае Беларускі саюз у Рэчы Паспалітай.

З Уніяй працы — партыяй Аляксандра Малахоўскага і Рышарда Бугая — Беларускі саюз спалучаюць падобныя меркаванні наконт грамадскай справядлівасці, захаванне роўнасці ўсіх грамадзян, пашаны для людзей іншай культуры і веравызнання. Унія працы, як адзіная партыя ў польскім парламенце выступіла за такія самыя правы для Праваслаўнай царквы, якія мае Каталіцкі касцёл. Усе іншыя партыі былі супраць.

Яўген Вапа, кандыдат Беларускага саюза, з'яўляецца прыхільнікам палітычнай памяркоўнасці. Дзякуючы яго намаганням беларусы атрымалі тэлеперадачы на беларускай мове і пашыраны эфірны час па радыё. Ужо некалькі гадоў, разам з сябрамі з беларускіх арганізацый, аб'яднаных у Саюзе, працуе над праектам грамадскага і эканамічнага развіцця ўсходняй Беласточчыны. Ёсць шанц паменшыць беспрацоўе ў нашых мястэчках, пабудаваць больш дарог і водаправодаў у нашых вёсках, ажывіць „усходнюю сцяну". Але для гэтага, у радах заканадаўчай і выканаўчай улады, патрэбны людзі, якія хацелі б, каб жыхарам усходняй Беласточчыны жылося не горш, чым грамадзянам іншых рэгіёнаў краіны. Каб тутэйшыя беларусы маглі ганарыцца сваімі гаспадаркамі, адукацыяй дзяцей, сваёй культурай.

* * *

Кандыдатуру Яўгена Вапы ў паслы падтрымалі: Мікола Адамік (радны Гарадоцкай гміны), Надзея Артымовіч (паэтка), Пётр Багроўскі (селянін), Аляксандр Божка (радны Гарадской рады Бельска-Падляшскага), Юры Хмялеўскі (рэдактар „Часопіса"), Сцяпан Хурса (селянін), Сакрат Яновіч (пісьменнік), Пятро Юшчук (юрыст), Ян Карчэўскі (настаўнік), Юры Каліна (журналіст), Пятро Крук (старшыня БДА), Васіль Ляшчынскі (дырэктар Пачатковай школы н-р 3 у Бельску-Падляшскім), Алег Латышонак (гісторык), Аляксандр Лаўрыновіч (намеснік дырэктара Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання ў Гайнаўцы), Сяргей Лукашук (дырэктар Дома культуры ў Бельску-Падляшскім), Уладзімір Лукоцьк (старшыня Гміннай рады ў Гарадку), Ян Максімюк (перакладчык беларускай літаратуры), Яўген Мірановіч (рэдактар „Нівы"), Міраслаў Пац (студэнт), Міраслаў Пякарскі (бізнесмен), Яўген Сачко (дырэктар Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання ў Гайнаўцы), Васіль Сакоўскі (настаўнік беларускай мовы ў Гайнаўскім ліцэі), Вольга Сянкевіч (настаўніца беларускай мовы ў Гайнаўскім ліцэі), Віктар Стахвюк (бізнесмен), Андрэй Сцепанюк (бурмістр Бельска-Падляшскага), Віктар Швед (паэт), Раман Шыманюк (юрыст), Галіна Тапалянская (настаўніца, пенсіянерка), Ян Тапалянскі (радны Нарваўскай гміны), Міраслаў Урбановіч (інжынер).

*(платная аб'ява)*



*Злева: Яўген Вапа, Рышард Бугай і Аляксандр Малахоўскі.*

# Беларускія сенатары

Выбары штораз бліжэй і, здавалася, нічога новага ў палітычным тэатры Беласточчыны ўжо не пакажацца. Мы таксама найчасцей пісалі пра перадвыбарчыя гульні кандыдатаў у Сейм з беларускага асяроддзя. Яны аб'явіліся пару месяцаў таму і вялі даволі актыўную палітыку, рэкламуючы свае асобы. Тым часам нечакана з'явіліся таксама кандыдаты ў Сенат Рэчы Паспалітай, прапанаваныя Галоўнай радай Беларускага дэмакратычнага аб'яднання. Два месяцы да выбараў Рада БДА вырашыла паставіць **Яна Тапалянскага**, былога войта Нарваўскай гміны і **Міхала Кандрашока**, прафесара Філіяла Варшаўскага універсітэта ў Беластоку кандыдатамі партыі ў Сенат у набліжаючыхся парламенцкіх выбарах. Каардынатару Краёвай управы Пятру Юшчуку і старшыні Рады БДА Пятру Круку вельмі пасправа ўдалося сабраць патрэбную колькасць подпісаў і зарэгістраваць кандыдатаў. Калі выбарчая кампанія будзе далей ісці так паспяхова, як збор подпісаў, тады кандыдаты ад БДА маюць шанц выдатна адзначыць сваю прысутнасць на гэтых выбарах. А пры нагодзе: хто гаварыў, што беларускае асяроддзе мала актыўнае? **(рэд.)**

# „Добра мне жывецца..."

Чарговы беларускі фэст праходзіў у нядзелю 17 жніўня ў Моры. На пляцоўцы каля будынка, пераўтворанага з пачатковай школы ў клуб „Рэлякс", прадаваліся шары, цукровая вата, піва і „Беларускі каляндар" на бягучы год. Выступалі фальклорныя і эстрадныя калектывы з Беласточчыны ды мужчынскі хор з Жабінкі на Берасцейшчыне.

Калі спевакі і музыканты павесялілі публіку, слова ўзяла сакратар Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства Валянціна Ласкевіч, у багатым народным адзенні: „Неўзабаве выбары. Прымае ў іх удзел таксама Беларускае таварыства. Мы ідзем у найлепшай з магчымых кааліцый, Саюзе левых дэмакратаў, які ўзначальвае сам пан прэм'ер. Аб гэтым сведчыць хаця б выбарчы лозунг СЛД: «Добрае сення, лепшае заўтра!» А хто ж з нас не хоча жыць лепш, праўда"?

Пасля накрэслення агульнага палітычнага накірунку спадарыня Ласкевіч перайшла да канкрэтаў. Зарэкамендавала яна прысутных, заслужаных для Беласточчыны паслоў Сяргея Плеву і Станіслава Малішэўскага і кандыдата ў паслы, старшыню БГКТ Янку Сычэўскага. „Гэта найлепшы кандыдат з магчымых. Ён не толькі старшыня найбольшай беларускай арганізацыі ў Польшчы, але і пераможца аб'яўленага Беластоцкім радыё конкурсу на беларуса 1996 года".

Паслы і кандыдаты згодна ўзнагароджвалі адзін аднаго воплескамі. А чарговыя калектывы працягвалі весяліць публіку. Людзей, аднак, не было многа. Затое на вуліцы ў Крывятычах, сто-дзвесце метраў ад месца, дзе праходзіў фэст, усе лавачкі былі заняты. Вясковы народ, большасцю ў пажылым узросце, адпачываў, карыстаючыся „добрым сеннем". Пра „лепшае заўтра" не схацеў слухаць? **(ак)**

# Перадвыбарчая споведзь

Нядаўна паказалася кніжка-інтэрв'ю Міхала Болтрыка з Яўгенам Чыквіным*. Суразмоўцам Болтрыка з'яўляецца вядомы беластоцкі палітык, які атаясамлівае свае палітычныя рацыі з інтарэсам Праваслаўнай царквы. Раней Яўген Чыквін быў актыўным дзеячам Царкоўнага брацтва, старшынёй беластоцкага аддзела Хрысціянска-грамадскага аб'яднання (Stowarzyszenie Chrześcijańsko-Społeczne), партыі, якая ўзнікла падчас ваеннага становішча. Ад 1985 года быў паслом Сейма ПНР ад гэтай арганізацыі, а ў 1991-1993 гадах прадаўжаў дэпутацкую місію як выбраны ў дэмакратычных выбарах пасол ад Выбарчага камітэта праваслаўных. Сення з'яўляецца ён рэдактарам „Przeglądu Prawosławnego", бізнесменам, праваслаўным актывістам і кандыдатам у Сейм РП ад Злучнасці славянскай нацыянальнай меншасці. Славянская злучнасць была заснавана на пачатку гэтага года па ініцыятыве Яўгена Чыквіна.

Кніжка-інтэрв'ю з Чыквіным несумненна з'яўляецца адным з элементаў выбарчай кампаніі кандыдата ў паслы Сейма Рэчы Паспалітай. Праўдападобна па гэтай прычыне большасць яе зместу прысвечана экспанаванні асобы палітыка, чым падзей нядаўняй мінуўшчыны, якія адбываліся з удзелам Яўгена Чыквіна. Шкада, таму што Чыквін быў у цэнтры палітыкі і больш мог бы сказаць пра закулісныя справы гэтай галіны жыцця. Тым часам у кніжцы няшмат інфармацый, якія не маюць характару агульнавядомых здарэнняў.

Чыквін перабольшвае сваю ролю ў працэсе адраджэння праваслаўя на Беласточчыне ў васьмідзесятых гадах, прамоўчвае некаторыя факты, іншыя перакручвае. Напрыклад, тэма стварэння Клуба праваслаўнай інтэлігенцыі. Апрача памяці людзей, якія аб гэтым клапаціліся, захаваліся яшчэ дакументы і адказы з боку органаў тадышняга дзяржаўнага апарату. Улады, як адзіную магчымасць дзейнасці праваслаўнай інтэлігенцыі бачылі толькі ў рамках арганізацыі, якою на Беласточчыне кіраваў Чыквін (менавіта Stowarzyszenia Chrześcijańsko-Społecznego). У тым часе да адпаведных секцый БГКТ адсылалі таксама беларускіх студэнтаў, якія змагаліся за стварэнне свае арганізацыі. З увагі на супрацьдзеянне з боку дзяржаўных органаў на кожную ініцыятыву стварэння беларускай нацыянальнай студэнцкай арганізацыі, шмат маладых людзей пачало гуртавацца пад рэлігійным сцягам, як больш успрымальным тадышнім уладам.

Трэба аднак павіншаваць Міхала Болтрыка і Яўгена Чыквіна з прафесіяналізмам. Напэўна мэты, якія яны сабе паставілі, дасягнулі поўнасцю. Не выклікаючы раздражнення ў чытача даюць яму вобраз кандыдата ў паслы як чалавека амаль дасканалага, тактоўнага, глыбокаверуючага, памяркоўнага і разумнага палітыка, адданага справе праваслаўя. Дакладна такога, якога чакае праваслаўны электарат Беласточчыны.

**Яўген Міpановіч**

**Byłem prawosławnym posłem. Z Eugeniuszem Czykwinem rozmawia Michał Bołtryk*, wyd. Orthdruk, Białystok 1997, ss. 112.

# Палітычнае прыстанішча беларускага дыпламата

Нечаканасцю вялікай, але і прыемнай, была звестка, што Уладзімір Палупанаў, беларускі дыпламат, папрасіў у Францыі палітычнага прыстанішча. Лёс звёў нас выпадкова летам 1992 г., калі Валодзя працаваў у Міністэрстве замежных спраў у Менску. Было гэта пасля таго, як Валодзя Колас са сваімі ліцэістамі гасціў у Гданьску і на Кашубах. Беларусь якраз была тады на высокім пад'ёме. Лunалі бел-чырвона-белыя сцягі на ўрадавых будынках і віселі гербы з Пагоняй. Адкрываліся дыпламатычныя прадстаўніцтвы Беларусі за мяжой. Ішла гаворка пра адкрыццё консульства ў Гданьску. Тады я сабралася ў вялікую спёку ў Беларусь, каб працаваць у архівах і бібліятэках. Забягала я час ад часу да Валодзі Коласа на каву і вось аднойчы ён паведаміў, што дамовіў мяне з будучым консулам у Гданьску. Абурылася я на такую нечаканасць, але Валодзя думаў, што нам, беларусам у Гданьску гэта ў нечым дапаможа і ў канцы пераканаў мяне, што трэба ўсё ж такі пайсці. Дарэчы, быў гэта мой першы візіт на ўрадавых структурах Беларусі. Пры ўваходзе ў МЗС чакаў мяне статны чарнявы мужчына, які прывітаўся са мной на беларускай мове. „О-го, — падумалася, — нядрэнна, калі ў МЗС так гавораць". Пасля праз кабінет міністра Пятра Краўчанкі трапіла я да спадара Аляксея Шаховіча. „Когда вы уехали из Белоруссии?" — пачула я. Пытанне было для мяне настолькі нечаканае, што нават цяжка было на яго адказаць. Калі ўжо спадар консул даведаўся, што ні я, ні мае бацькі з Беларусі ніколі не выязджалі, пачаў распытваць пра беларусаў у Гданьску. Напісала я яму даведку пра нашае тады становішча. Павейла крыху надзеяй, дарэчы, ніколі не здзейсненай. Відаць, невясёлы настрой адлюстроўваўся на маім твары, калі выйшла я з міністэрскіх кабінетаў, бо Валодзя Палупанаў вырашыў правесці мяне не толькі да дзвярэй будынка МЗС. Адразу знайшлі мы супольную мову, як жа іншую ад той у Кабінетах. Пасля развітання на прыпынку доўга я гэтага дня думала, што такі чалавек робіць у тым акружэнні людзей з МЗС. Часта пра тое гаварылі мы разам, але заўсёды Валодзя пераконваў мяне, што гэта не зусім так, як я думаю, што трэба працаваць для Беларусі. Сустракаліся мы за кожнай маёй паездкай у Беларусь, у менш ці больш спрыяльных умовах: а то ў халоднай майстэрні Сяржука Крыштаповіча, якому па невядомых прычынах адключылі ацяпленне, то ў Валодзевай кватэры, дзе я пісала біяграфію Васіля Захаркі, то на адраджэнскіх імпрэзах, дзе Валодзя з гітарай спяваў народныя і аўтарскія — таксама свае — песні. Мне здавалася, што можам гаварыць бясконца, а было аб чым. Бачыла я, што Валодзя зайздросціў мне маёй працы ў архівах і маіх знаходак, гаварыў, што сам не мае калі пісаць. Я яго суцяшала, што здараюцца мне там такія непрыемныя прыгоды, напрыклад, з ксеракопіямі, што аж жыць не хочацца ў той іхняй рэчаіснасці.


*Валодзя Палупанаў у Доме літаратара. Менск, 29.01.1993 г.*

Апошняя наша сустрэча адбылася ў дзень, калі здымалі бел-чырвона-белы сцяг з прэзідэнцкага дома, пасля ганебнага майскага рэферэндуму Лукашэнкі ў 1995 годзе. У Менску адбываўся якраз II Кангрэс беларусістаў. Па дарозе забегла я да Валодзі.

— Ведаеш, што яны зрабілі са сцягам?! Як ты можаш працаваць у такой адміністрацыі, якая знішчае сваю нацыянальную сімволіку!

Валодзя развёў рукамі і сказаў:

— А што мне рабіць? Я думаю так як і раней. Маю надзею на паездку за мяжу.

Сапраўды, увосень Валодзя Палупанаў з'ехаў у Парыж у беларускае пасольства ў якасці культурнага аташэ і замоўк. Часта ўспаміналася я Валодзю як заступаўся ён за мной у архіве, гаворачы, што „гэты чалавек працуе на Беларусь", калі за ксеракопіі здзіралі з мяне там валюту, даражэй, чым у Польшчы.

Сёння перачытваю ягоныя апавяданні, столькі ў іх людской сардэчнасці і далікатнасці, а таксама пераклады з французскай і мальгашскай моў на беларускую і ўспамінаю (не „блага") нашы сустрэчы ў Беларусі, з надзеяй, што не былі яны апошнімі. І што ў вольным свеце Валодзя зможа нешта зрабіць для нашай — пакуль ідэйнай — „Вольнай Беларусі".

**Лена Глагоўская**
*Фота аўтара*

**Івона Марціновіч**

* * *

Восень, вясна
Лета і зіма
Парыж жоўклае лісце
Гайнаўка маўклівы каштан
... і лаўка старая з гнуткай спінкай
(цяпер такіх не робяць)
Лета ... гарачы цёплы вечар
Густое зялёнае галлё
Я ... Ты ... і нашае маўчанне
Нашае каханне ... назаўсёды?
Я зноў тут ... восень і той самы парк
Тая самая лаўка
А новы сябра
Каля рэчкі смех і цішыня
І мы адны на ўвесь парк
Сухое галлё не закрывае ад чужой
цікаўнасці
А мы і не хаваемся
Сорам ... які?
Маўчым ... мы любім маўкліва ...
навошта словы?
Яны хлусяць.
Ніколі не вер словам
Я верыла, але ты не вер
Маўчым ... і думаем пра цябе
Кожны па-свойму
На прадаўжэнні рукі падае ліст ...
маё... сэрца
Тваё...
Нічыё
І скрыпкі тужлівая мелодыя
Яно як ты мінулым летам у раі было
Кранула таямніцу, рызыку
Зялёнае галлё
Гнуткую спінку і ... цела
У цябе ёсць яна ... вясна
У мяне ёсць ён ... маўклівы каштан
У нас ... лаўка старая з гнуткай
спінкай
Спавядальніца душаў
І неба сведка гульні цел

**Занатоўкі ўдзельніка II З'езду беларусаў свету**

# Беларусь, калі ж ты будзеш дома

***(працяг; пачатак у 34 нумары)***

На з'ездзе ў якасці госця выступіў украінскі паэт Іван Драч, які заявіў, што прыехаў сюды, каб пазнаёміцца з арганізацыяй такога роду мерапрыемства, бо ў верасні ўкраінцы праводзяць падобны з'езд у сваёй краіне. Атмасферу падчас спробы чытання прэзідэнцкага паслання назваў ён крыкам роспачы і заўважыў, што беларусам не трэба крычаць, а трэба брацца за канкрэтную справу. Раіў ён браць прыклад з чачэнцаў, якіх намнога менш за беларусаў, але якія змаглі адстаяць сваю незалежнасць і паставіць на калені вялікую дзяржаву з яе магутнай ваеннай тэхнікай. Выступленне ўкраінскага паэта прысутныя прынялі працяглай бурнай авацыяй, стоячы, пры воклічах „Жыве Беларусь!".

Апрача патрыятычных выступленняў дэлегатаў і гасцей II З'езду Згуртавання беларусаў свету траплялiся і такія прамоўцы, якія расхвальвалі цяперашні дыктатарскі рэжым Лукашэнкі. Дэлегат Лыч з Менска падвяргнуў крытыцы паводзіны беларускай інтэлігенцыі, якая быццам бы праводзіць небяспечную палітыку сярод моладзі, падбухторваючы юнакоў супроць прэзідэнта і дзяржаўных улад. Заклікаў ён інтэлігенцыю пакінуць займацца палітыкай і накіраваць свае сілы на навуковую дзейнасць. У адказ на зале раздалася тупаніна і прагучэлі воклічы: „Хлусня, пайшоў прэч!"

Чарговым прамоўцам, які выклікаў гнеў залы, быў прадстаўнік дыяспары з Украіны Барыс Цімошнік з Харкава, які заклікаў беларусаў на Бацькаўшчыне і пражываючых па-за яе межамі аб'яднацца вакол прэзідэнта Лукашэнкі і супольна з Расеяй і Украінай стварыць адну дзяржаву пад назвай Славянскі Саюз. Іншыя дэлегаты з Украіны заявілі, што ніхто не даў яму права выступаць ад імя ўсёй украінскай дэлегацыі. Зала сустрэла выступленне Цімошніка воклічамі „пайшоў вон, злачынца, правакатар" і іншымі абразлівымі словамі, але ён не зважаючы на нішто працягваў сваю прамову да канца.

Прадстаўнік БНФ Лявон Баршчэўскі апрача патрыятычнага выступлення заахвочваў удзельнікаў з'езду прыняць удзел у святкаванні 7 гадавіны Дня Незалежнасці, якое планавалася правесці на плошчы Якуба Коласа 27 ліпеня а 14 гадзіне.

* * *

Другі дзень з'езду пачаўся 27 ліпеня а 10 гадзіне. Старшыня з'езду паведаміў, што вечарам папярэдняга дня адбыліся перавыбары Вялікай і Малой рады Згуртавання беларусаў свету „Бацькаўшчына". Радзім Гарэцкі і Ганна Сурмач надалей будуць выконваць свае абавязкі. Гэтая вестка была ўспрынята бурнымі воплескамі.

Першым прамоўцам гэтага дня быў Валянцін Грыцкевіч — прадстаўнік беларускай суполкі з Санкт-Пецярбурга. Расказаў ён пра дзейнасць суполкі і ейныя праблемы ды з вялікім хваляваннем паведаміў, што 26 ліпеня а 14 гадзіне тэлебачанне паказала некаторыя падзеі з залы з'езду і што ў гэтай перадачы выступіла дэлегатка з Польшчы, якая з'езд назвала базарнай таўкучкай. Гэтая жанчына, а была гэта Ніна Цыванюк з Гарадка, расхвальвала прэзідэнта А. Лукашэнку і ягоную палітыку (яна з трыбуны не прамаўляла, толькі дала інтэрв'ю тэлебачанню). У кулуарах можна было пачуць непрыхільныя выказванні ў адрас гэтай жанчыны і дэлегатаў з Польшчы.

Дзесьці каля 12 гадзіны на трыбуну падняўся прадстаўнік Беласточчыны, старшыня Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства Янка Сычэўскі. Якое ж дзіўнае і недарэчнае было ягонае выступленне. Спадар Сычэўскі хваліўся на ўсе магчымыя спосабы як гэта на Беласточчыне развіваецца беларуская культурная дзейнасць. Паводле ягоных слоў дзейнічае ў нас 40 беларускіх пачатковых школ ды два ліцэі, а на арганізаваныя БГКТ фестывалі беларускай песні прыходзяць тысячы гледачоў. На сёлетняе Купалле ў Белавежы прыйшло больш за 10 тысяч чалавек. Падчас выступлення з залы пачуўся голас: „Хлусіш, дзе гэтыя беларускія школы ў Польшчы?" Прамоўца ў гэты момант спыніўся і паправіў, што ў пачатковых школах можна вывучаць беларускую мову як прадмет. Далей спадар Сычэўскі сказаў, што БГКТ не праяўляе ніякай палітычнай дзейнасці і раіў „Бацькаўшчыне", грамадскай арганізацыі, пакінуць палітычную дзейнасць і заняцца фальклорам ды культурай, бо палітыкай павінны займацца прэзідэнт, урад і партыі. Выходзячы з такіх меркаванняў II З'езд беларусаў свету павінен быўператварыцца ў нейкую вечарыну ці фестываль, на якім толькі спяваюцца песні, а вырашэнне найважнейшых спраў належала б пакінуць непрыхільным беларускай справе палітыкам. У кулуарах выступленне старшыні БГКТ успрымалася адмоўна. Адзін дэлегат з Гродна сказаў: „Я гэтага прамоўцу ведаю з прэсы. Аднойчы пісалі, што Лукашэнка ўзнагародзіў яго высокім медалём. Відаць, таму ён так выступае на з'ездзе, бо хоча атрымаць другую ўзнагароду". Спадар Сычэўскі не атрымаў апладысментаў, а слухачы прынялі яго абыякава.

Намеснік старшыні Дзяржаўнага камітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцей Яновіч паабяцаў уніяцкаму святару Яну Матусевічу і каталіцкаму ксяндзу Уладзіславу Чарняўскаму, што на працягу трох месяцаў будуць надрукаваны псалтыр і евангелле на беларускай мове, каб можна было адпраўляць у касцёлах святую літургію па-беларуску. Гэтую заяву зала прывітала бурнымі воплескамі.

У дапамогу спадару Сычэўскаму прыйшоў дэлегат з Малдовы (у свой час „адстойваў свабоду Прыднястроўя"), які таксама заклікаў прыпыніць палітычную дзейнасць і дзякаваў беларускаму ўраду за атрыманую дапамогу. Калі зала стала патрабаваць спыніць выступленне, ён сышоў з трыбуны. У падобным духу выступіў Сяргей Яніцкі — дэлегат з Брэста, які хваліўся сваімі сяброўскімі кантактамі са спадаром Сычэўскім і таксама патрабаваў, каб „Бацькаўшчына" прыпыніла палітычную дзейнасць. У адказ з залы пачуліся патрабаванні спыніць выступленне.

***(працяг будзе)***

**Юстын Пракаповіч**

# Зорка
## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



*Замалёўка з Нарвы.* Малюнак Пятра ДЗЕМЯНЮКА

# Падляшская легенда

*Гэту легенду сто гадоў назад запісаў Мікола Янчук, этнограф родам з Падляшша.*

Даўным-даўно жыло на свеце сем братоў-князёў. Усе яны разумнікамі слаўнымі былі, паводле зорак умелі гадаць і мінуўшчыну, і будучыню. Прыйшоў цяжкі час. Браты-князі прадбачылі канец свету. У канцы рашылі пабудаваць вежу, месца для свайго вечнага адпачынку. Дружна пачалі пабудову. Але ўся іх праца завяршалася адчайным вынікам. Тое, што здолелі ўзвесці за дзень, ноччу ўваходзіла ў зямлю. І так паўтаралася тры гады. Урэшце найстарэйшы князь загадаў зрабіць залаты шар і ў яго сярэдзіну заткнуць жывога пеўня, і такім купалам завяршыць хаваючуюся вежу. Так і зрабілі.

Калі запеў певень, вежа пачала выходзіць з зямлі. Расла яна, уздымалася, аж апынулася ў небе.

Шэсць малодшых братоў-князёў увайшло ў сярэдзіну вежы і заснула там вечным сном. А найстарэйшы князь прысеў на парозе, паставіў нагу на ляжачым побач камені і сказаў:

— Калі гэты камень вырасце мне па калена, будзе канец свету.

Сказаўшы свае словы князь абапёр галаву на руку, падпёрся локцем на калені і заснуў. Вежа таксама, быццам па прычыне чароўнай замовы, прапала. Зараз ніхто яе не бачыць. Адзін залаты шар як зорка зіхаціць у небе. Яго, праўда, цяжка і вылучыць сярод ясных зорак. Але каб некаму давялося знайсці яго, пабачыць вежу і абудзіць спячага на парозе князя, той спазнаў бы ўсё, што яшчэ здарыцца да канца свету.

*З рускай мовы пераклала Ганна КАНДРАЦЮК*

**Максім БАГДАНОВІЧ**

* * *

*З цыкла „Лясун"*

Прывольная, цёмная пушча:
Вялізныя ліпы, дубы,
Асінніка, ельніка гушча,
Між хвоі апаўшай — грыбы.

Ўсё дзіка, пустынна імшыцца,
Агністая спёка стаіць.
На моху між спелай брусніцы
Лясун адзінокі ляжыць.

Каравая моршчыцца скура,
Аброс цёмным мохам, як пень,
Трасе галавою панура,
Бакі выгравае ўвесь дзень.

Гляджу на яго я уныла, —
На сэрцы і жаль, і жуда:
Ўсё знікла — і ўдаласць, і сіла!
Прапала, як дым, як вада!

# Цікавасць да беларускіх кніжак

Будучы ў Гданьску я мела нагоду прысутнічаць на незвычайным мерапрыемстве. Беларускае гістарычнае таварыства, якое прадстаўлялі доктар Лена Глагоўская, доктар Алег Латышонак і магістр Славамір Іванюк, прэзентавала свае кніжкі. Сустрэча праходзіла ў гданьскай бібліятэцы імя Я. Кажанеўскага. Там наладзілі і выстаўку беларускіх выданняў. Кніжка спадарыні Глагоўскай „Беларусь 1914-1929. Культура пад ціскам палітыкі" выклікала вялікае зацікаўленне публікі. Аўтарцы ставілі шмат пытанняў. Большасць з іх датычыла сітуацыі ў Беларусі.

Кніжка доктара Латышонка кранае праблемы беларускага вайсковага руху. Аўтар кніжкі сказаў:

— Напісаў я гэту кніжку, бо цікавіла мяне ці беларусы ўзброена змагаліся за сваю краіну.

Аказалася, што некалькі тысяч добраахвотнікаў змагалася за сваю Бацькаўшчыну. Асоба генерала Булак-Балаховіча малавядомая не толькі палякам, але і беларусам.

Славамір Іванюк па прафесіі архівіст. Ягоная кніжка — гэта збор самых цікавых дакументаў, якія вучоны адшукаў у архівах.

Усе кніжкі карысталіся вялікім зацікаўленнем сярод пакупнікоў.

Прыемна было ўдзельнічаць у мерапрыемстве, дзе многія палякі цікавіліся беларускімі справамі і кніжкамі.

**Аня САДОЎСКАЯ**

# Мы качаліся па сцэне

*Чароўны ранак, сонечны прамень,*
*Над старажытным Бельскам*
*новы дзень,*
*Гамоняць птушкі, шэпчуць каласы...*
*Ці чуеш? — Гэта продкаў галасы.*

Словамі „Песні пра Бельск" вядучыя мерапрыемства Альжбета Тамчук і Сяргей Макарэй прывіталі публіку II Спасаўскіх запустаў. А было гэта 10 жніўня г.г. у бельскім амфітэатры. Сцэна была аздоблена жытнімі снапамі і тканымі дыванамі. Праграма падзялялася на тры часткі. Найперш выступілі дзяўчаты з БДК са сцэнкай „Жытняя талака". Я мела гонар прымаць удзел у гэтым прадстаўленні. З увагі на тое, што выступалі першымі, мы перажывалі трэму. З-за гэтых нерваў мы амаль не забылі, што трэба рабіць. Аднак усё было добра. Натуральна атрымаўся нам паказ народных жніўных абрадаў.

У канцы выступлення мы мелі качацца па сцэне. Але раней палілі вадой дзяўчат, публіку, снапкі і сцэна была мокрая. Таму мы былі вымушаны куляцца па мокрым паркеце бельскага амфітэатра, быццам парасяткі ў балоце. Было добра!

Пазней пачаліся выступленні гуртоў: „Маланка", „Васілёчкі", „Дзявочыя ноткі", „Красавік", „Зубры", „Чарамшына". На заканчэнне ўсе выканаўцы праспявалі „Песню пра Бельск" на словы Сяргея Макарэя і музыку Алега Залётнева. Калі пачаліся першыя такты музыкі рок-гуртоў, старэйшыя жанчыны рашылі:

— Трэба ісці на „Саванну".

Рок мае фанаў не толькі сярод моладзі, але і старэйшых. Добра гулялі ў рытме гэтай музыкі Лявон Тарасэвіч і Яўген Вапа. Прызнаюся, што гэта мяне прыемна здзівіла. На сцэне выступілі лаўрэаты з „Басовішча" — „The Dvery" (Гайнаўка), „Вядро" (Бельск-Падляшскі) і „Eine Klakson". Апошняя частка бельскага мерапрыемства больш падабалася тым, што аддаюць перавагу танцу. Маю надзею, што і ў наступных гадах Спасаўскія запусты будуць арганізавацца.

**Жанэта РОЛЯ**



*Дзеці з Кленік.* Фота Ганны КАНДРАЦЮК

# Беларускае нацыянальнае адраджэнне ў пачатку XX стагоддзя

Звыш стогадовая расейская акупацыя Беларусі прывяла да русіфікацыі вялікай часткі беларускага грамадства. У другой палове XIX стагоддзя сыны паланізаванай шляхты штораз часцей ставілі сабе пытанне: хто мы па нацыянальнасці? Неўзабаве пра тое самае спыталі сябе маладыя праваслаўныя беларусы, якія вучыліся ў расейскіх універсітэтах. Адказаў трэба было шукаць у гісторыі, традыцыі мясцовага люду. Кожны, хто пабываў у Расеі ці Польшчы заўважаў, што Беларусь — гэта іншы край, іншы менталітэт людзей, іншая мова і культура штодзённага жыцця. Хаця ў касцёлах пастаянна крычалі: „polski my naród, polski lud", а ў цэрквах — „мы истинно русский народ", маладая беларуская інтэлігенцыя пайшла шляхам вернасці сваёй Бацькаўшчыне. Кожны адукаваны і сумленны чалавек, пазнаўшы праўду пра свой край, хацеў бачыць яго вольным ад чужых памешчыкаў, паліцыянтаў, ураднікаў і іх нахабнай хлусні.

У 1902 годзе маладыя людзі стварылі першую беларускую палітычную партыю. Мэтай яе дзейнасці паставілі дапамогу беларускаму народу стаць гаспадарамі на сваёй зямлі. Пару гадоў пасля ўзнікла першая агульнабеларуская газета „Наша ніва", а яе аўтары сталі пазней выдатнымі палітыкамі і стваральнікамі нацыянальнай культуры і навукі. Узыходзіла зорка Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Вацлава Ластоўскага, Алеся Гаруна. Неўзабаве з'явіліся іншыя беларускія часопісы і газеты, узніклі першыя прыватныя школы, дзе навучанне вялося на беларускай мове. Ідэя беларускасці пашыралася, закранала сялянства і памешчыкаў. Калі ў 1914 г. выбухла першая сусветная вайна, працэс адраджэння толькі разгортваўся. Хаця вайна яго не стрымала, аднак рашуча памяняла палітычную сітуацыю ў Беларусі, прымусіла маладых, нявопытных палітыкаў прымаць рашэнні, якія патрабавалі шматгадовых дыскусій. Але на гэта не было часу. Бацькаўшчына патрабавала тады дзейнасці.

# Вечарына з Сындэсмасам

Мы ўжо другі раз пабывалі на летніку ў Супраслі. Сарганізаваў яго наш псаломшчык Дарафей Фіёнік. Ён пазнаёміў нас з сусветнай арганізацыяй праваслаўнай моладзі Сындэсмас.

Новыя сябры запрасілі нас на вечарыну. Там мы праспявалі чатыры песні з Ягуштова і наваколля. Наша выступленне было ўзнагароджана бурнымі апладысментамі. Гаспадары вечарыны падарылі нам кашулькі. Мы атрымалі таксама медалі св. Пятра Алеуцкага ад айца Яна Матусяка з Чыкага.

**Аля Асташэвіч**
**і Эмілія Бусловіч**
**з Ягуштова**



*Андрэй і Каміль Паплаўскія з Гарадка.* Фота Ганны КАНДРАЦЮК

## Вясёлы куточак

Ясь просіць бацьку:
— Татка, купі мне кубікі „Лега".
— Я яшчэ не звар'яцеў!
— А калі звар'яцееш?

* * *

Прадаўшчыца крычыць на Яся:
— Ах ты, зладзюга, зноў гуляеш у пакражы.
— Я?
— Зараз пойдзем да твайго бацькі.
— То мусіце пачакаць, бо тата ў магазіне.

* * *

П'яніцы выходзяць з бара:
— Вядзі мяне, Коля, бо я не бачу дарогі.
Ваня:
— Добра, праведу. Я бачу дзве дарогі.

**Даслаў**
**Тамаш Дзямянюк з Падрэчан**



*Мал. Т. ДЗЕМЯНЮКА*

# Хто не працуе, той не есць

У сербскага караля Матыі была прыгажуня дачка, але гультайка: ніколі нічога не рабіла, ды і не ўмела рабіць, цэлымі днямі сядзела перад люстэркам і любавалася сабой.

Прыйшоў час выдаваць яе замуж. Кароль абвясціў: хто за тры гады навучыць яго дачку працаваць, за таго ён яе і замуж аддасць. Час ідзе ды ідзе, а каралеўну ніхто не сватае. Паслаў кароль набліжаных шукаць мужа для дачкі. Паехалі яны ў розныя бакі. І вось спаткаўся ім неяк хлопец — арэ поле на васьмі валах. Яны тут жа яму загадалі ісці да караля. Хлопец спалохаўся, але нічога не зробіш. Прыходзіць ён да караля, а той яму і расказаў усё па парадку. Згадзіўся хлопец, абяцаў за тры гады навучыць дзяўчыну працаваць. Прывёў ён каралеўну дадому. Маці выбегла насустрач, дзівуецца на цудоўную дзяўчыну.

На другі дзень хлопец узяў плуг, запрог валоў і паехаў на поле, а маці сказаў, каб не прымушала нявестку працаваць. Вечарам вярнуўся з працы, маці падала вячэру, а сын пытаецца:
— Хто сёння працаваў, маці?
— Я і ты, — адказвае яна.
— Ну, хто працаваў, той і есці можа.

Не спадабалася гэта каралеўскай дачцэ, раззлавалася яна і галодная пайшла спаць. І на другі дзень усё гэтак жа было.

На трэці каралеўна і кажа свякрусе:
— Мама, дай і мне якую-небудзь работу, каб мне не сядзець без занятку.

Тая загадала ёй нарубаць дроў.

Вечарэла. Селі за стол, а хлопец зноў пытаецца:
— Хто сёння працаваў, маці?
— Мы трое: я, ты і каралеўна.
— Ну, хто працаваў, той і есці можа.

І ўсе трое павячэралі. Так, пакрысе, каралеўна навучылася працаваць.

Праз тры гады прыязджае кароль наведаць дачку. Бачыць — працуе яна дружна са свякрухай. Уцешыўся і кажа:
— І што, і ты навучылася працаваць?
— А як жа, — адказвае каралеўна, — у нас так вядзецца: хто працаваў, той і есці можа. І ведаеш, тата, калі ты хочаш павячэраць, ідзі ды нарубай дроў.

Кароль прывёз дачцэ і зяцю шмат падарункаў, пагасцяваў, а потым завёз усіх трох да сябе ў палац. Хлопца таго ён прыняў, як роднага сына, абяцаў яшчэ пры жыцці перадаць яму каралеўства.

# Крыжаванка № 35

*Даслала Кася ЛЕАНЮК з Гайнаўкі*



# Вярнуць нацыі яе напаўзабытыя скарбы...

Парою майго леташняга наведвання Беларусі я пабачыла дзве кнігі, асаблівы цыкл **Алены ЯСКЕВІЧ**: „Праблема цэласнасці старабеларускай філалогіі XVI-XVII стагоддзяў: адзінства экзегезы і герменеўтыкі” (200 стар.) і „Старабеларускія граматыкі” (360 стар.). Сёлета вось 10 гадоў плённа працуе на ніве айчыннай культуры гэтая маладая даследчыца. Назвы першых артыкулаў, напісаныя ёй яшчэ ў студэнцкія гады, зараз бачацца сімвалічнымі, — „Нас выхоўвае тое, што мы аддаём”, „Тры кагорты пачынальнікаў”, „Вытокі беларускай балады” і іншыя. І таму натуральна ўзнікае першае пытанне, што прымусіла юнага навукоўца ўзяцца за пяро?

— Час, спрыяльны для гуманітарных даследаванняў, — кажа 26-гадовая працаўніца навукі. — Час, калі грамадства канчаткова разупэўнілася ў тэхнакратычным і таталітарным, звярнулася да духоўных праблем, рэлігія пачала адыгрываць у жыцці народа больш значную ролю, адбылося абуджэнне самасвядомасці і нацыянальнай годнасці беларусаў. Прыйшоў час нацыянальнага Адраджэння, ужо хіба ў трэцяй хвалі ў гэтым стагоддзі. Мова беларуская набыла статус дзяржаўнай, але функцыянальныя стылі яе сталіся няздольныя задавальняць новыя патрэбы. Дыялектныя пласты нацыянальнай мовы былі ў асноўным засвоены праз пісьменніцкую моватворчасць і праз плённую працу лінгвістаў, этнографаў, фалькларыстаў. І менавіта вопыт дыяспары падказаў выйсце — звярнуцца да **культуры старабеларускай** кніжнасці, калі ва ўжытку была агульнанацыянальная мова, якая не засноўвалася на нейкім пэўным дыялекце, а абірала з моўнага багацця кожнага рэгіёна ўсё самае філігранна вытанчанае, прызнана дасканалае, прымальнае для ўсіх.

Абноўленая моватворчая палітыка патрабавала вяртання ў актыўны ўжытак славутай нацыянальнай спадчыны, на якой вучыліся нашы суседзі: чэхі, славакі, паўднёвыя славяне, палякі, рускія, украінцы — старабеларускіх граматык і лексіконаў. Варта згадаць, што ў час знакамітага абуджэння славян у XVIII ст. многімі з іх былі зроблены падробкі пад старадрукі. Нашая ж айчынная спадчына захавалася, відаць, і таму што ў залаты век нацыянальнай кніжнасці дасканалае валоданне старабеларускай і старачэшскай мовамі было найвышэйшай адзнакай этыкету ў Цэнтральнай і Усходняй Еўропе.

Была Воля Божая, каб мне давялося здзейсніць тое, што адбывалася раз у стагоддзе — вярнуць нацыі яе напаўзабытыя скарбы. Праца пачалася 10 гадоў назад. Вынікам маіх студэнцкіх пошукаў і студый сталіся „Старабеларускія лексіконы” (1992).

— Нагадваю, што з трыма папярэднімі кнігамі „Старабеларускія лексіконы” (Мінск 1992), „Словам скароны свет”, „Творы Ф. Скарыны: жанравая структура, філасофскія погляды, мастацтва слова” (Менск 1995, дарэчы, лаўрэат прэміі Акадэміі навук Беларусі за 1995 г.) мы ўжо знаёмілі чытачоў, некаторыя з іх нават можна набыць у нашай кнігараньцы ў рэдакцыі. Як згадвалася раней на старонках „Нівы”, менавіта старабеларуская мова вельмі блізкая да арэала **сучасных беластоцка-падляшскіх** гаворак.



— Літаратурны працэс на Беласточчыне мае багатыя карані і традыцыі ў сярэднявяковай літаратуры. Існаваў шэраг пісьменнікаў, якія стваралі своеасаблівы гістарычны летапіс гэтага краю. Амаль усе буйнейшыя постаці старабеларускай і старапольскай літаратуры „залатога веку” так ці інакш звязаны з гэтым краем. І, узнікшая на глебе такой багатай творчай спадчыны, беластоцкая літаратура, як асобная адзінка ў еўрапейскім мастацкім працэсе, мабыць, у большай ступені, чым уласна беларуская, захавала блізкасць да вызначальных рыс нацыянальнага архетыпу: жыццяздольнасці і захаванасці беларускамоўнай традыцыі і спрадвечна праваслаўныя канфесійныя арыентацыі.

— Законы цыклічнасці, паводле якіх адбываецца развіццё грамадства, ахопліваюць і з'явы літаратурнага, культурнага жыцця...

— Так, пасля крызісу антычнай цывілізацыі, якая дала сусветнай культуры высокадасканалыя ўзоры паэзіі, драмы і прозы, быў пэўны перыяд зараджэння новага літаратурна-культурнага стрыжня, закладванне асновы на падставе сярэднявяковага фальклору, гарадскога анекдота, травесційнага апавядання, перш чым узоры высокай паэзіі, драматургіі, эпасу запанавалі ў культуры хрысціянскіх народаў, і з лірніцкіх, багамольскіх песень развіваўся гімнаграфічны род літаратуры, з міракля, маралітэ, батлейкі — ренесансная драма, з лірычных, калядна-абрадавых песень, гарадскога рамансу ўзнікла паэзія, а анекдоты, фабія, шванка, народная аповесць, казкі — узоры прозы...

— Але беларускі літаратурны працэс перарваўся...

— І ўяўная адсутнасць гарманічнай спалучанасці і цеснай пераемнасці паміж літаратурай сярэднявечча і Новага часу — яскравы таму прыклад. Пра адраджэнскія тэндэнцыі гаварылі не толькі ў дачыненні да эпохі Рэнесансу, але і да нашаніўскага перыяду пачатку стагоддзя, а і дачыненні да трэцяй хвалі Адраджэння, сучаснікамі і ўдзельнікамі якога мы былі да самага апошняга часу, нядаўніх нацыянальных катаклізмаў.

— А калі гаварыць пра паасобныя творы паасобных паэтаў? У іх жа даследчык знойдзе і супольнае, мастацкія і этычныя здабыткі пройдзенай дарогі чалавецтва...

— Напрыклад, сучасная высокаінтэлектуальная паэзія і проза з іх сцвярджэннем права мастака пераважна толькі на творы чыстай красы, багатая на разнастайныя рыторыка-сінтаксічныя канстуркцыі, надзвычай чулая да ўнутранага жыцця слова, шмат у чым у сваіх пошуках новых вобразна-выяўленчых сродкаў выразнасці роднiцца з прэцыёзнай стылістыкай. І таму невыпадкова пошукі Людмілы Рублеўскай, Галіны Булыкі, Алеся Разанава, Яна Чыквіна, Надзеі Артымовіч, Зоі Сачко ўвачавідкі тоесны пошукам Рансарда, Кахаhistoireоўскага, нашага земляка-падляшука Івана Ужэвіча...

— Але ў Еўропе ў „залаты век” часцей можна было спаткаць кнігу, перакладзеную з „белороссійскаго языка”.

**Распытвала Міра Лукша**

# Каму шкодзіць Сорас?

Джордж Сорас нарадзіўся ў 1930 годзе ў Будапешце, у яўрэйскай сям'і. У 1947 годзе пакінуў Венгрыю. Скончыў слаўную London School of Economics і затым у 1956 годзе пераехаў у Злучаныя Штаты Амерыкі. Дзякуючы спекуляцыям на найбольшых фінансавых біржах стаў адным з багацейшых у свеце людзей. Аднак, большую славу заваяваў ён не сваім багаццем, а міжнароднай дабрачыннай акцыяй, прычым, ягоная дабрачыннасць — гэта не падача міласціны жабракам, а інвестыцыі ў адукацыю, у пашыранне дэмакратыі і свабоднага рынку, у фармаване адкрытага грамадства ў посттаталітарных дзяржавах. У 1979 годзе Сорас заснаваў Фонд „Адкрытае грамадства”. Цяпер ягоныя фонды дзейнічаюць у дваццаці пяці краінах: у Цэнтральнай і Усходняй Еўропе, былым Савецкім Саюзе, Паўднёва-Афрыканскай Рэспубліцы, Гаіці і ЗША.

Цэнтрам сорасаўскіх адукацыйных праектаў з'яўляецца заснаваны ў 1990 годзе Цэнтральнаеўрапейскі універсітэт з сядзібай у Будапешце і некаторымі аддзяленнямі ў Празе і Варшаве. Абітурыентам вышэйшых школ дае ён магчымасць паглыбляць веды ў такіх галінах, як гісторыя, гісторыя мастацтва, эканоміка, сацыялогія, палітычныя і грамадазнаўчыя навукі. У акадэмічным годзе 1996/97 вучыўся ў ім 541 студэнт з трыццаці пяці краін, галоўным чынам Цэнтральнаўсходняй Еўропы і былога Савецкага Саюза.

Апрача рэалізацыі сталых праграм навучання, у рамках летняга універсітэта ладзяцца там двух- або трохтыднёвыя курсы, перш-наперш для універсітэцкіх настаўнікаў, але таксама для працаўнікоў пазаўрадавых арганізацый, юрыстаў, журналістаў. На гэтых курсах выступаюць з дакладамі найлепшыя ў сваіх дзялянках спецыялісты. Курсанты маюць доступ да бібліятэкі, камп'ютэрнай сеткі і Інтэрнету, да таго яшчэ атрымліваюць магчымасць бясплатна набыць кніжкі на пэўную суму ва універсітэцкай кнігарні.

У ліпені і я ўдзельнічаў у курсах: „Правы нацыянальных меншасцей як галіна правоў чалавека”, якія супольна з ЦЭУ — Цэнтральнаеўрапейскім універсітэтам — ладзіла пазаўрадавая арганізацыя Minority Rights Group з Лондана. На нашых курсах было каля трыццаці чалавек з такіх краін як: Венгрыя, Румынія, Боснія, Харватыя, Македонія, Балгарыя, Славакія, Беларусь, Украіна, Расея, Кыргызстан.

Сярод выкладчыкаў былі навукоўцы-тэарэтыкі, як філосаф Віл Кімліка з універсітэта ў Атаве ці прафесар Янош Кіш, галава аддзялення палітычных навук ЦЭУ. Былі таксама практыкі, якія дзесяцігоддзямі па ўсім свеце займаюцца правамі чалавека, напрыклад, ісландзец Гудмундур Альфрэдсан, які працаваў у Сакратарыяце ААН, а цяпер з'яўляецца сустаршынёю праваабарончага Інстытута Рауля Валенберга ва Універсітэце ў Лундзе (Швецыя), ці англічанін Алан Філіпс — старшыня Minority Rights Group, які пачынаў сваю міжнародную дзейнасць з дапамогі чылійскім уцекачам пасля перавароту Пінгачэта. Некаторыя ў сваёй кар'еры паспрабавалі тэорыю рэалізаваць на практыцы, як віцэ-рэктар ЦЭУ Цібар Варадзі, які ў свой час быў міністрам юстыцыі Югаславіі.

Такая разнароднасць гарантавала прэзентацыю розных пунктаў погляду на меншасці, іхнія правы і абавязкі перад дзяржавай. Прадметам дакладаў была як спроба дэфініцыі народу, меншасці, шматкультурнага грамадства, так і канкрэтная сітуацыя ў паасобных дзяржавах. У ходзе дыскусіі не абышлося без рознагалосся, напрыклад, паміж балгарамі і македонцамі. Нашу калегу з Масквы шакіраваў прэзентацыяй гісторыі і сённяшняга становішча ў Беларусі антраполаг Павел Церашковіч з Еўрафоруму. Са здзіўленнем і непрыхаваным абурэннем слухала яна пра расейскую акупацыю Беларусі і, нарэшце, у вочы кінула: „Хлусіш ты! Няма ніякай беларускай нацыі”.

Міжнародная супольнасць і дэмакратычныя дзяржавы паставілі на высокі ўзровень правы адзінкі. Горш бывае з правамі асобных груп, чаго доказам з'яўляецца хаця б Паўночная Ірландыя ці Край Баскаў. Прадстаўнікі малых дзяржаў жаліліся, што вялікія прымушаюць іх уводзіць законы, якіх самі не прытрымліваюцца. Напрыклад, Францыя не прызнае на сваёй тэрыторыі ніякіх нацыянальных меншасцей, тлумачачы, што Французская рэвалюцыя зраўняла ўсіх у правах і дала ўсім магчымасць стаць французамі.

Гудмундур Альфрэдсан звярнуў увагу, што законы не заўсёды абазначаюць справядлівасць. Міжнародныя законы перш-наперш захоўваюць статус-кво і даюць міжнародным арганізацыям толькі абмежаваныя магчымасці націску на дзяржавы, калі тыя не выконваюць усіх абавязацельстваў у адносінах да сваіх меншасцей. — *Але і так меншасці не выкарыстоўваюць усіх дадзеных ім магчымасцей паправіць сваё становішча,* — казаў ён. — *Віна тут, пераважна, у надта слабой адукацыі і няведанні куды і да каго звярнуцца за дапамогай.*

Зразумелі гэта хаця б венгры ў Румыніі, якія сваімі людзьмі апанавалі многа міжнародных арганізаый і навучыліся канструктыўнай працы з дзяржаваю. Гэтым самым змянілі і стаўленне дзяржавы да сябе і сёння Венгерскі нацыянальны альянс у Румыніі ўваходзіць ва ўрадавую кааліцыю.

* * *

Фонд Сораса, як і Цэнтральнаеўрапейскі універсітэт якраз скіраваныя на тое, каб даваць людзям з нашай часткі Еўропы неабходныя ў вырашэнні складаных пытанняў кантакты. У Беларусі, на жаль, або гэтага не разумеюць, або, наадварот, лічаць шкодным, калі грамадзяне замнога будуць кантактаваць з замежжам. Яшчэ, чаго добрага, нейкую крамолу прывязуць. Таму дзейнасць Сораса і забаранілі.

**Мікола Ваўранюк**

# Селянін, машыніст і млынар

**У малой вёсцы ўсе ведаюць усіх, а найстарэйшы аднасяльчанін з'яўляецца самым верагодным прадстаўніком вясковай супольнасці. У Міклашах Арлянскай гміны старэйшына вылучаецца дасканалай памяццю: успамінае бежанства, санацыю, вайну...**

— У верасні 1915 года ўсе жыхары Міклашоў падаліся ў бежанства, у Расію, — успамінае 83-гадовы **Рыгор БОБЕР**. — Выехаў мой бацька Лявон, маці Альжбета, 4-гадовы брат Ілья і я — немаўлятка ў пялюшках. Пасялілі нас у маёнтку Хава Марынаўскага ўезда Варонежскай вобласці. Жылі мы ў доме былога ўласніка, супольна з ягонымі парабкамі. Бацька працаваў сторажам у 10-гектарным садзе. Калі пачалася рэвалюцыя, то ноччу грукалі ў вокны то чырвоныя, то белыя і пыталі, ці мы чаго не бачылі. А мы ім адказвалі, што нічога не ведаем, бо мы — бежанцы. У 1919 годзе пачаўся голад. Там пшаніцу і проса трымалі ў стагах, бо былі леташнія запасы зерня. Калі насталі чырвоныя, то стагі спалілі, а потым яшчэ прыйшла засуха. Звыш года мы галадалі — елі крапіву і лебяду. У верасні 1921 года вярнуліся мы ў Польшчу. Помню, што калі мы ехалі таварным цягніком з Расіі ў Беларусь, то праз рэйкі праходзілі такія вялікія статкі пацукоў, што аж поезд спыняўся і чакаў, пакуль яны пяройдуць. У адваротным выпадку цягнік не паехаў бы, бо слізгаліся б колы.

Вярнуліся мы ў спаленыя Міклашы. Было толькі 7 дамоў тых гаспадароў, якія вярнуліся ў 1918 годзе. У 1925 годзе пайшоў я ў школу ў Орлі, якой загадваў тады Тадэўш Врублеўскі. Вучылі ў ёй таксама Марыя Ман, пазнейшая жонка кіраўніка, і Бялецкі. Школу наведваў я толькі зімою, бо летам пасвіў авечак і свіней у Міклашах, а потым і сорак яўрэйскіх кароў у Орлі. Закончыў я ўсяго 5 класаў. У 1928-1933 гадах працаваў я ў брата ў Беластоку як пасыльны ў магазіне з вопраткай, на вуліцы Кілінскага. Тады хрысціянскія магазіны былі рэдкай з'явай, бо амаль увесь гандаль знаходзіўся ў яўрэйскіх руках. Калі брат абанкруціўся, пайшоў я працаваць на маторны млын у мясцовасці Саколы Высока-мазавецкага павета. Неўзабаве перайшоў я ў Шчыты-Дзенцялова і там тры гады (1934-1937) працаваў на водным млыне Эдварда Васілеўскага (раней трымаў яго Слупскі). Апошнія два гады да выбуху II сусветнай вайны працаваў я на кафляным заводзе, які быў уласнасцю яўрэйскай сям'і Вайштынаў. Пры саветах пайшоў я на трохмесячныя курсы машыністаў паравозаў (качагарак) у Беластоку і потым да 1941 г. працаваў у паравозным дэпо качагарам і памочнікам машыніста. У лістападзе 1940 года ажаніўся з маладшай на 10 гадоў Аннай Гонта з Міклашоў і год жылі мы пры цесцях.

Пры немцах, з красавіка 1942 да ліпеня 1944 года, працаваў я ў паравозным дэпо ў Беластоку машыністам пасажырскіх цягнікоў. Жыў я тады з жонкай і дачкой на вул. Сасновай 81. Праца на чыгунцы была да часу, калі расіяне не збамбардзіравалі станцыю і горад. Было гэта пад канец чэрвеня 1944 г. Машыністы больш-менш ведалі, дзе знаходзіцца лінія фронту і на два тыдні перад прыходам фронту ўдалося мне адаслаць жонку з дачкою ў Міклашы. Машыністу давалі тады 170, а памочніку — 150 марак і па 200 грамаў ялавічыны ў дзень. Падчас бамбардзіроўкі быў я ў Беластоку і бачыў, як снарад папаў у суседаву хату.

У палове ліпеня і я апынуўся ў Міклашах. Да Бельска даехаў я цягніком, а далей дабіраўся пешшу. Тут у Міклашах ужо тыдзень стаяла нямецкае войска, а ў Орлі - у садзе каля кафлярні і на могілках - ды на калёніі Антонава былі ўжо саветы. Людзі хаваліся па зямлянках. Немцы і саветы ведалі пра сябе, але не арыентаваліся аб баявой сіле ворага. Акурат майму брату ўцёк у сад конь. Брат баяўся пайсці за ім, але братавая, Насця Бобер, рашылася злавіць каня. Узяла яна аброць і пайшла ў сад. Там патаемна гутарыла з рускім і расказала яму пра сітуацыю ў вёсцы. Здалёк бачыў гэта немец і калі братавая вярнулася з канём, стаў яе распытваць пра рускіх. Немцы раззлаваліся і сталі зганяць усіх жыхароў вёскі на панадворак Чарняўскіх. Відаць, намерваліся расстраляць нас. Адзін немец гаварыў па-польску і жанчыны пачалі яго прасіць выратаваць нявінных людзей, тлумачылі, што сяляне давалі немцам малако, харчы. Неўзабаве людзей адпусцілі ў зямлянкі. Мабыць, выратавала нас і тое, што свайго часу некаторыя сяляне супрацоўнічалі з немцамі.

26 ліпеня 1944 года вечарам руская разведка падышла да рэчкі і з гучным „ураааа!" прагнала немцаў з бранёвікамі ў галадоўскі лес. З гэтага часу 26 ліпеня лічыцца ў Міклашах святам. Удзячныя Богу за выратаванне вяскоўцы даюць у гэты дзень на абедню. Моляцца пераважна пажылыя людзі, бо маладыя не разумеюць гэтага свята, паколькі яны самі не перажылі жахаў вайны.

У пасляваенны час, да 1950 года, працаваў я на сваёй гаспадарцы ў Міклашах, а дадаткова займаўся ў цагельні і кафлярні. У 1949 годзе паставілі мы драўляны дом, у якім жывем да сённяшняга дня. Найдаўжэй, бо з 1950 да 1976 года, працаваў я на электрычным ГСаўскім млыне ў Орлі. Стуль я і пайшоў на пенсію. Выхавалі мы чацвярых дзяцей — тры дачкі і сына.

Цяпер я пераважна сяджу дома. Старому цяжка даецца хада. Толькі жонку пасылаю ў кіёск за газетамі, бо абое любім чытаць. Памяць у мяне яшчэ добрая, толькі слых ужо дрэнны. Люблю таксама размаўляць...



*Рыгор Бобер з жонкай Аннай.*

Запісаў **Міхал Мінцэвіч**

*Фота аўтара*

Якія мы людзі

# Палярына

Даўным-даўно, яшчэ пры камунізме, калі ўнушалі нам, што ў Польшчы толькі будуецца сацыялізм, і калі па дзвюх праграмах польскай тэлевізіі было ўсё ж што паглядзець, ішла перадача, а фактычна гульня, квіз: „Małżeństwo doskonałe".

Мужа і жонку садзілі ў асобныя кабіны і пачыналі ім задаваць пытанні. Пытанні датычыліся спраў гэтай сям'і, паасобку — мужа ці жонкі, а згоднасць у адказах сведчыла аб тым, якая гэта згодная і добрая сям'я.

Праграма „Małżeństwo doskonałe" ішла, здаецца, праз тыдзень, а мо нават і штотыдзень. Аднойчы трапілася фенаменальная пара. Яны пра сябе ведалі ўсё, і гледачы былі ўжо амаль упэўнены, што перад імі на экранах — пераможцы гэтай гульні. А засела гэтая пара на чым? — На тым, што жонка не патрапіла адказаць, у якім гальштуку прыйшоў у студыю яе муж. Ну, і не выйгралі.

Памятаю, што я тады не магла дараваць гэтай жанчыне: ну, як гэта так, каб не падабраць мужу гальштук?! Пэўна, сам сабе ўзяў, бедалага, абы што, дык вось яна і не запамятала...

Эх, быў чалавек тады малады і яшчэ больш наіўны, чым цяпер... Справу з гальштукам я палічыла вялікім грэхам тае жанчыны. Жыццё, аднак, значна мадыфікавала мае погляды.

* * *

Думаю, што быў гэта канец восемдзесят пятага года, бо я яшчэ была ў жалобе па бацьку, які памёр летам. А на банкет трэба было пайсці: запрасіў нас — майго мужа і мяне — не абы-хто, а сам архіепіскап Сава, з якім мой муж працаваў у Беластоцкім камітэце абаронцаў міру.

Банкет меў адбыцца ў гатэлі „Лясны" з нейкай вельмі ўрачыстай нагоды, мо быў гэта з'езд праваслаўнай моладзі з усяго свету, а мо з іншай прычыны, не памятаю.

Божа, у што апранацца? У маім гардэробе заўсёды было шмат чорнага, але ж выпадала выглядаць элегантна... Нарэшце я выбрала адзін са сваіх чорных „мундзіраў", а наверх — выцягнула з шафы даўно не ношаную палярыну. Была яна ўжо не зусім модная, але прыгожая і, галоўнае, была чорнага колеру. Калі я накінула яе на той „мундзір" — нават сама сабе спадабалася і здалося мне, што муж глянуў на мяне адабральна, цёплым позіркам. Кажуць, што жанчыны апранаюцца для жанчын, а гэта ж няпраўда.

У адной з вялікіх банкетных залаў „Ляснога" было поўна гасцей. У нішы, якая была прадаўжэннем залы, мы распрануліся. Ну, не, фактычна гэта мой муж зняў з мяне тую палярыну і акуратна павесіў на вешалцы, бо сам ён выйшаў з самахода ў адным касцюме.

Банкет быў вельмі багаты. Каля гасцей завіхаліся не толькі афіцыянткі, але і шмат жанчын-прыхаджанак, якія нарыхтавалі многа сваёй ежы.

Былі тут беластоцкія і прыезджыя духоўнікі ў сутанах, нейкія дэлегацыі, надта знатныя людзі і тыя, з якімі мы сустракаліся вельмі часта, а нават з некаторымі былі добра знаёмыя. Было прыемна, бо атмасфера была цёплая.

Ну, што ж, усё, што добрае, хутка канчаецца, і трэба было збірацца дахаты. Мы сядзелі якраз насупраць тае нішы, дзе распрануліся даслоўна чалавек дваццаць. Калі муж устаў, каб прынесці мне верхнюю вопратку, вісела ўжо можа плашчоў дзесяць, не больш.

Муж пачаў шукаць мой плашч, грэбся там, пераварочваў усё, што толькі вісела, прыглядаўся, правяраў. А я сядзела і нічога не разумела, што ён робіць. Чаго ж ён грабецца там, калі мая палярына вісіць на найбольш відочным месцы, а побач з ёю нічога няма?! Гонар не дазволіў мне ўстаць і прынесці маю палярыну, бо, па-першае, было б сорамна майму мужу, а, па-другое, — мне. Ужо людзі пачалі прыглядацца да таго, што дзеялася. Цэлы рад беластоцкіх свяшчэннікаў сядзеў і ўсміхаўся, бачачы, як мой муж шамочацца з гэтым дзесяткам плашчоў.

Урэшце муж павярнуўся да тых, хто яшчэ застаўся, глянуў на мяне молячым позіркам і развёў рукамі.

І тады з крэсла неспадзявана падняўся малады бацюшка, хутка падышоў да маёй палярыны і — з далікатнай усмешкай на твары — падаў яе мне.

Ён, відаць, заўважыў, у чым я прыйшла ў гэту залу.

* * *

Сяброўкі, выслухаўшы пасля мой сумны аповяд, сцвердзілі, што больш тут прычыны для радасці, чым для перажывання.

**Ада Чачуга**

# На Грабарку

[**1** ☞ *працяг*]

Вячэрняя багаслужба адбылася з удзелам трох мітрапалітаў: Польшчы — Васілія, Украіны — Уладзіміра, Партугаліі — Іаана і трынаццаці епіскапаў. Найбольш іерархаў прыехала з Украіны. Магчыма і таму падчас багаслужбаў дамінавала ўкраінская мова. Гучэлі таксама расейская, польская, грэчаская мовы. Беларускай карысталася яшчэ неапалячаная частка вернікаў.

Незвычайна прыгожы спеў хораў падчас *вячэрні* страшэнна быў прафанаваны сучаснай гукаўзмацняльнай тэхнікай. Часам нешта псавалася і час ад часу, праз пару хвілін, вернікі маглі пачуць сапраўды Богам дараваныя галасы харыстаў.

Сілу ўздзеяння Святой Гары можна было пабачыць, напрыклад, падчас першай літургіі ў дзень Праабражэння Гасподняга, калі пару тысяч людзей, пасля поўначы з вялікай засяроджанасцю ўдзельнічала ў малітве разам з епіскапамі Дамаскінам з Грэцыі і Авелем з Польшчы. Аднак святасць гэтага месца адчуваецца найбольш тады, калі чалавек мае магчымасць бачыць перад сабой царкву, навокал крыжы, дрэвы і чуць цішыню. Шматвяковыя сосны падказваюць тады куды трэба схіліць галаву, а сама прысутнасць пераўтвараецца ў малітву.

**Аляксандр Вярбіцкі,**
**Мікола Ваўранюк,**
**Яўген Міранович**

# Чатыры хаты і аэрадром

Ёсць такая маленькая вёска ў Нараўчанскай гміне, на ўскраіне Белавежскае пушчы, **Баравыя**. Невялікая, у чатыры гаспадаркі, у тры драўляныя і адну абкладзеную ў дадатак цэглай хаты па адзін бок дарогі з Пасек у Баб'ю Гару. Хоць малая, але сваю гісторыю мае. Заснаваў яе ў XIX стагоддзі Кандрат Кастанчук родам з Меляшкоў. Пісаліся яна ў калішніх дакументах „Баравікі", так стаіць і сёння ў спісе мясцовасцей Польшчы, але амаль да сённяшняга часу ў гмінных паперах пісалі *Borowyje*, а цяпер узяліся пісаць *Borowe*. Жывуць тут людзі з прозвішчамі Мацкевіч і Лукша, а былі і Лясоты, і Андраюкі (адзін са старэйшых жыхароў гміны, Іван Кастанчук, жыве цяпер у дачкі ў Беластоку). Усе сваякі ў розных пакаленнях.

Раней Баравыя славіліся сваімі чатырма ліпамі, па адной на кожны падворак. На жаль, цяпер іх толькі дзве — адна больш за 150-гадовая, напалову разбітая маланкай, і зусім яшчэ маладая, стогадовая, што маладзенькай адпраўляла баравікоў у бежанства. Ёсць тут, вядома, і свая буслянка — раней яна была на клуні Надзі Андраюк, а цяпер, па-сучаснаму, „дагадзілі" буслам і падсадзілі гняздо на электрычны слуп. Калі статыстычна глядзець — у весцы 50% гаспадароў маюць трактары, ёсць і дзве аўтамашыны. Значыць, у статыстыцы Баравыя выглядаюць някепска, бо і зямля абрабляецца, і хаты не пустуюць, і ёсць маладое пакаленне, бо дзетак малых тут ужо трое. А на лета прыехала іх сюды яшчэ больш.

— Калі прыехала аўтакрама, і ўсе, малыя і старыя вылеглі на вуліцу, — расказвае Алік Мацкевіч, семяноўскі пісьманосец, — то аж дзіўна было глядзець, як у нас нямала народу!

Апрача чатырох хатаў і іншых будынкаў, у вёсцы ёсць яшчэ і... аэрадром, на дзвюх палосках (пэўны час яны ляжалі аблогам), пазначаны калкамі з ярка-жоўтымі стужкамі. Купіў поле для свайго мотадэльтаплана Андрэй, 25-гадовы кавалер з Беластока, што і акуратны домік ставіць пад Медзвядзямі. Хлопца гэтага вельмі хваляць у наваколлі, што такі апаратыўны, талковы. Першы раз, калі прыляцеў, перад прызямленнем пакружыўся, памахаў народу, заляцеў аж над Баб'ю Гару, каб дзядзьку паказацца.

— Збеглася чалавек з трыццаць або і больш, — расказвае Зіна Кавалевіч з Беластока, што на лета прыехала памагчы сынам. — Вельмі было цікава паглядзець, як на якое дзіва. Я ўжо раней казала: „Купляйце, хлопцы, самалёты! Найбольш бяспечна будзе ўсім паветрам далятаць над Семяноўскае вадасховішча!" Пытаю я Андрэя колькі такі самалёцік каштуе, а ён кажа: „Трыста пяцьдзесят мільёнаў!" Ну, кажу, не так і многа, як на такую машыну. Разумны гэты Андрэй — малады такі, а разбіраецца, што і хату трэба мець, і ў небе палятаць.

**Міра Лукша**
*Фота аўтара*



*У Баравых расце маладое пакаленне.*

# Балючая неаб'ектыўнасць

Мо і цікава, але мяне ўжо перастала цікавіць тое, што робяць і гавораць правыя колы III РП і каталіцкі клір. Аднак нельга абысці маўчаннем надта балючай неаб'ектыўнасці, якая разумных людзей абурае, затое цешыць і падбадзёрвае да далейшых крокаў фальсіфікатараў гісторыі.

У ліпені г.г., калі адбывалася перапахаванне сялян-вазакоў на бельскія вайсковыя могілкі, беластоцкае тэлебачанне вуснамі дыктаркі Элізы Білевіч заявіла, што „dokonano ekshumacji szczątków wozaków, którzy zostali rozstrzelani kolo wsi Puchały Stare...". Не пададзена было хто іх расстраляў і за што, відаць з такой мэтай, каб ніхто нічога не ведаў, бо гэта не толькі сорам, а ганьба „барацьбітам за дэмакратычную і незалежную Польшчу" мардаваць невінаваты народ. Акрамя таго: „zostali rozstrzelani", а нехта можа падумаць: „byli sądzeni".

Але ўжо 18 жніўня г.г. у сем гадзін раніцы Радыё Беласток вуснамі Аліцыі Петручук паведаміла аб урачыстасці, якая адбылася ля помніка барацьбітам з бальшавікамі, прысвечанага шаснаццаці беластачанам, „których bolszewicy zamordowali bez sądu w 1920 roku". Звярніце ўвагу на спосаб інфармацыі. Там „rozstrzelanych", хаця пабітых калкамі з цвікамі, а тут „pomordowanych", хаця — расстраляных. Панове і пане, памятайце, што Бог усё бачыць і ведае. Не гнявайце Яго сваімі паступкамі! А, праўда, я ўсё забываю, што вы ў такога Бога, якому моляцца праваслаўныя — не верыце. Вы па трупах хочаце даказаць толькі сваю праўду. Прыпомню: калі справа памардаваных вазакоў дайшла да скутку, тады зноў адазваліся „kola niepodległościowe", каб запратэставаць супраць пераносу астанкаў на вайсковы могільнік. Праўду сказаў Вацлаў Кавальскі ў фільме „Sami swoi": „Sąd sądem, a sprawiedliwość musi być po naszej stronie". Значыць, па вашым баку.

**Васіль Петручук**

Адгалоскі

# Разважанні пра дэмакратыю

Такіх як Ул. Сідарук, якія не вераць „нікому і ні ў што, ні ў дэмакратыю, ні ў грамадскую справядлівасць", многа. Яны — пакрыўджаны лёсам і жыццём, тым болей цяпер, калі самому за той лёс і жыццё трэба адказваць і... думаць. Найлепш было ў час ваеннага становішча. Пэўна, былі недахопы, але за нас тады думала і ствярала нам умовы жыцця ўлада. Яна пераняла ўсе нашы клопаты. На ўсе патрэбныя для жыцця прадукты былі карткі. Вечарамі чалавек сядзеў у хаце, пры дзецях і жонцы. Усе больш-менш атрымлівалі аднолькавую зарплату: хто за працу, хто за тое, што хадзіў на працу. І так цяклі гады, людзі прызвычаіліся да такой сітуацыі. Але няма так, каб заўсёды было лёгка. Такі падыход да рэчаіснасці атрымаў паражэнне. Чалавек, аднак, такі звер, які хоча быць вольным. Вольным можна быць на розныя спосабы. Можна, напрыклад, выехаць у адпоўнае месца і стаць свабодным ад іншых людзей, але можна так сарганізаваць грамадскасць, каб не перашкаджаць суседу, каб шанаваць устаноўленыя грамадствам законы, каб у турму саджаць злачынцаў, а не вальнадумцаў, каб была **магчымасць** працаваць і развівацца, каб была **магчымасць** тварыць і адпачываць стомленым, каб была **магчымасць** лячыцца хворым і т.д. Проста — каб была дэмакратыя. У дэмакратыі можна нават не верыць „у дэмакратыю".

**Міхась Куптэль**

PS. Так пры нагодзе разважанняў пра дэмакратыю, дарагі сп. Сідарук, укладаеце ў мае словы свае думкі. Пра гразь і гадкія эпітэты нават я і не падумаў. З таго, што я аптыміст, не вынікае, што я сыты, а гэта не значыць, што я галодны і не пра мяне ідзе тут гаворка. **М. К.**

# Радзіма — Родзіна

**Дадатак II**

Прыводжу далейшыя фрагменты выказванняў уніяцкага святара Аляксандра Надсана, якіх я выслухаў перад абвяшчэннем дэкларацыі аб незалежнасці Беларусі ў 1990 годзе:

„Хрысціянская рэлігія належыць да сферы чалавечай духоўнасці. Яе задача заключаецца ва ўнутраным духоўным узбагачэнні чалавека. У хрысціянстве маем дачыненне з вечнымі і універсальнымі ісцінамі, якія ў аднолькавай ступені адносяцца да ўсіх хрысціян, незалежна ад іх нацыянальнай прыналежнасці. Аднак хрысціянства не дзейнічае па-за жыццёвымі і нацыянальнымі рэаліямі. Духоўнікі розных вызнанняў гэта не толькі дзеці адвечнага хрысціянства але і дзеці паасобных народаў. І таму нельга сказаць, што такі ці іншы святар — гэта слуга толькі хрысціянства. Ён у такой самай ступені слуга свайго народу. І таму мы, уніяты, не разумеем таго, што такі ці іншы святар, усёроўна — праваслаўны ці каталіцкі, які жыве і дзейнічае на Беларусі, заяўляе, што для яго важнае праваслаўе ці каталіцызм, але не важная беларускасць. Зрэшты, гэтыя ж святары, карыстаючыся ў святынях і ў сваім прыватным жыцці рускай ці польскай мовай, даказваюць, што справа нацыянальнасці ў іх жыцці адыгрывае вельмі вялікую ролю. Шкада, што гэта справа нацыянальнасці датычыць не беларускай, але іншых нацый.

Паводле нас справа выглядае проста. Бог, ствараючы людзей і народы, даў ім не толькі акрэсленую зямлю, але таксама і мову. З гэтага вынікае, што ўсе тыя духоўнікі, якія жывуць сярод беларускай нацыі, але не карыстаюцца мовай гэтай нацыі, адкідаюць элементарную хрысціянскую праўду аб тым, што і чалавек, і яго мова, і яго нацыянальнасць — гэта боскія тварэнні. Калі нехта не служыць сваёй нацыі, дык не служыць і Богу. Я размаўляў з праваслаўнымі святарамі таксама ў Польшчы. Былі гэта высокапастаўленыя святары ў царкоўнай іерархіі. Між іншымі сустракаўся я з святарамі. Яны абодва — беларусы. Вы ведаеце, адзін з іх расчуліўся і нават дэкламаваў вялікія фрагменты „Новай зямлі" Якуба Коласа, а другі з халоднай пагардай заявіў, што беларуская мова ў царкве нікому не патрэбная. Вы ведаеце, калі такое гаворыць беларускі святар, дык значыць, што слухае ён не голасу Бога, а толькі кагосьці зусім іншага.

Вы ведаеце, што і нам тут у эміграцыі не было пачаткова лёгка. Людзі былі зняволены традыцыйным мысленнем. Але ж духоўнікі — гэта не толькі слугі, але і праваднікі. Кіруючыся беларускім патрыятызмам, стварылі мы нацыянальную Царкву. Зрэшты, не толькі мы, уніяты, але і праваслаўнае духавенства, і баптысты будуюць тут нацыянальныя беларускія святыні, у якіх родная мова адыгрывае фундаментальную ролю. І ў гэтым сэнсе тут няма ніякіх розніц паміж уніятамі і праваслаўнымі, баптыстамі і беларусамі-каталікамі.

Можа ўзнікнуць пытанне, чаму беларускае духавенства ў эміграцыі поўнасцю атаясамліваецца з беларускай нацыянальнасцю і беларускай мовай, а беларускае духавенства на Радзіме карыстаецца мовай даўніх і сённяшніх захопнікаў? Мне здаецца, што адказ на так пастаўленае пытанне досыць просты. Мы тут, на Захадзе, карыстаемся поўнай духоўнай свабодай і няма над намі ніякага нацыянальнага прыгнёту. На жаль, нельга гэтага сказаць аб Беларусі, якая ад вякоў знаходзіцца ў абцугах улады чужынцаў. Самі ведаеце, што Беларусь не ёсць суверэннай нацыянальнай дзяржавай. Зняволенне народу абазначае і зняволенне рэлігіі.

Ці мы верым ва ўзнікненне беларускай незалежнай дзяржавы? Верым. Ведаем, што ўсякае зняволенне — гэта часовая з'ява. Бог не можа на даўжэйшую мэту цярпець усякую няволю і пашле свабоду таксама і беларускаму народу. Вы ж толькі паглядзіце, магло б здавацца, што няволя афрыканскіх народаў вечная, аднак аказалася, што не. Сёння амаль усе гэтыя народы атрымалі свабоду. Таксама раней ці пазней будзе і з Беларуссю. Разам з адраджанай беларускай дзяржаўнасцю адродзіцца і беларускае незалежнае рэлігійнае жыццё".

**Алесь Барскі**

# Парнасік

### Жнівень

І надышоў месяц жнівень,
Магчыма, з неба не будзе падаць дождж-лівень.
Дажджу ўжо хопіць для нашых палёў,
Для цэлай прыроды, лугоў...
Зямля ўжо насычана вадою па рубяжы
І гэтым, мой друг, даражы,
Цешся ўсім, што Бог пасылае
І пакланіся яму, калі цябе і пакарае.
Як пройдзе жніва — убачым, і то скора.
Ніва пакланілася і, думаю, не дойдзе да гора.
Але пакуль машыны не ўсюды даедуць,
Бо грузка, і работу не ўсюды распачнуць.
Напэўна будзе пагода і ўсё ўнармуецца
І жніўная работа адбудзецца.
Збожжа на полі не будзе зімаваць
І не час наракаць.
Многія ўжо ўбралі атаву,
І, як кажуць, пагодна і на славу.
Хопіць некалькі дзён добрай пагоды
І шпарка, гарманічна ідзе ў сялян работа.
Што ж, жнівень — апошні месяц летка
Ды дзякуем Уладыку мы рэдка,
Што дае добры час, здароўе і ў сэрцы цяпло,
Каб намі вечна кіравала Божае Дабро.
Дні ўжо карацеюць, і на ўсё ёсць пара,
Пільнуем хаты, двара...
Птушкі гатовяцца да свайго вялікага падарожжа;
Дапаможы ім ляцець лёгка, і нам, магутны Божа.

**Мікалай Панфілюк**

---

### Трэба помніць

Вазакі, небаракі
Не вярнуліся дахаты,
Бо ў лесе іх кат забіваў.

Там святар не памаліўся,
Толькі лес ім пакланіўся,
Беларусам гонар даў.

Кат у тое не паверыў,
Хоць і Богу памаліўся
Ды гарэлку з ксяндзом папіваў.

Дзеткі бацьку чакалі,
Кожны дзень выглядалі,
А ён у зямліцы ляжаў.

Дык гады праміналі,
Дзеткі далей чакалі
І забыць ніяк не маглі.

А забойцы свабодна
Па зямельцы хадзілі,
Ветэранамі сталі вайны.

А цяпер ім за тое
Медалі падавалі
Ды сказалі: „Героі былі!"

Гэта ўсім трэба знаці,
Нашым дзеткам казаці,
Каб ніколі таго не забыць.

**Мікалай Лук'янюк**

## ВЕР — НЕ ВЕР

Астроне! Снілася мне, што мой унучак збіраецца ісці ў дзіцячы садок (першы раз). Я вельмі хвалююся. А тут раптам бачу, што з майго адзення выбягае процьма маленькіх насякомых, быццам белых павучкоў. Яны нібы выліся ў рукаве маёй курткі. Давай я іх заганяць у той рукаў, думаю, забягуць яны ўсе туды, то я іх спляжу.

**Зіна**

Ой, Астроне! Што ж мне, старой, прыснілася! Быццам бы я збіраюся ісці на баль. Ды з кім? — З паліцыянтам! Ужо апранула бальнае адзенне. Маю выходзіць з хаты, але ў апошні момант агледзелася, што я без майтак. Ой, думаю, а калі ўпаду... Хутчэй схапіла майткі і апранула. Ці пайшла я на той баль — не ведаю, бо прачнулася.

**Кацярына**

Зіна! Твой сон гаворыць за тое, што будуць у цябе нейкія праблемы. Бачыш, калі прысняцца насякомыя, дык так і чакай нейкіх клопатаў, непрыемнасцей. Насякомых было мноства, а што яшчэ горш — табе здалося, быццам былі гэта павукі (хаця і невялікія). Павукі ў сне папярэджваюць цябе, што маеш вакол сябе нейкіх ворагаў. Забіць павукоў — значыцца, перамагчы ворагаў.

Паколькі ты канкрэтна запланавала, як гэтых павукоў знішчыць, дык можна меркаваць, што і ворагаў ты пераможаш.

А ты, Кацярына, занадта не цешся! Твой сон сведчыць аб нейкіх крыўдах і непрыемнасцях (паліцыянт), аб страце часу і сродкаў (баль), аб нейкім уроне (некамплектная вопратка).

Адным словам, непатрэбныя справы, якія займаюць цябе, прынясуць толькі крыўду, непрыемнасці і страту.

**Астрон**

# Крыжаванка



**Гарызантальна:** 2. Генры (1905—82) і Джэйн (нар. у 1937 г.), сям'я амерыканскіх акцёраў, 4. горад між Беластокам і Слонімам, 6. Баляслаў, польскі дзеяч Камінтэрна (1892—1956), 7. ізаляваная частка памяшкання, 9. Пітар, англійскі славіст (нар. у 1944 г.), 11. неперыядычнае выданне, 12. опера Г. Гендэля, 13. фарба для чарчэння, 15. грошы, каштоўнасці, 17. сусед Ізраіля, 18. Уладзімір, украінскі гісторык і этнограф (1834—1908), 19. горад на поўначы Беларусі.

**Вертыкальна:** 1. музычны твор у павольным тэмпе, 2. паэма І. Гётэ, 3. опера Дж. Вердзі, 4. рэдкая мучная страва з мясам, 5. Ян, польскі паэт і вучоны (1860—1926), 6. балгарскі князь, які ў 864 г. прыняў хрысціянства, 8. рака ў Гвінеі, 9. канец шахматнай партыі, 10. сумесь гарэлкі з півам, 14. Галіна, савецкая балерына (нар. у 1910 г.), 16. бой, 17. дзяржава Кадафі. **(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 28 нумара**

**Гарызантальна:** папар, балалайка, Кёльн, адгок, лях, крушына, азіміна, Нім, Кавур, сявец, каралевіч, Кадар.

**Вертыкальна:** спальня, пілон, рэйка, бальшавік, Артымовіч, корак, канец, Лан, хам, Ізольда, Рурык, сквер.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Міхалу Байко і Аляксандру Дабчынскаму** з Беластока.

# Сябеўласнікі

Паехала мая Зінка наведаць сваіх старэнькіх бацькоў. Я ўвесь дзень увіваўся каля жывіны. Пад вечар зварыў густое кашы. Думаў, што Зінка прыедзе, а яна любіць так пад вечар паесці: смачнае кашы, са скварачкамі, да таго пару кіслых гурочкаў. Што ж, пражылі мы з ёю трыццаць пяць гадоў, ведае кожнае, як адно аднаму дагадзіць. Яна была такая харошая ў маладосці, закахаўся ў яе без памяці, і ўзяў, наймалодшую з сясцёр.

Ну, дачакаўся! Прыйшла з аўтобуснага прыпынка. Стаўлю вячэру на стол, пытаюся, як цесці жывуць, а Зінка амаль з плачам, ледзь скінула куртку:

— Ой, мужчыны то ўсе праклятыя здраднікі! І ты, пэўна, такі самы!

— А што гэта з табою, Зіначка! — захваляваўся я. — Ты штосьці нядобрае пабачыла ці пачула?

— Што пачула? А вось такое! Мая сяброўка, Нінка, усё жыццё на гаспадарцы пратаўклася! Усё рабіла і рабіла, а чалавек мала ў чым і дапамагаў. На працу ездзіў на фабрыку, а цяпер вось захварэў, каб ён здох!!!

— Як ты такое можаш казаць! Кожны можа захварэць. Але каб здыхаць меў?..

— Ты мне, Коля, не перабівай! Ну, захварэў Жорж. Нінка даглядала яго як немаўля. Як трохі папраравіўся, паехаў у санаторый. Там пазнаёміўся з адною. Гарадскою панюсяй. Вядома, якія бабы па санаторыях цягаюцца, такія, што час маюць. Модная прычоска, адзенне. Гаварыць такая ўмее, каб загаварыць чужога мужыка. Ну то той дурань узяў у яе закахаўся. Ужо, вось, цяпер падаў Нінку на развод. Жывуць пакуль што ў адным доме, але з гэтага ніякага толку няма. Усё прыгаварвае Нінцы, што тоўстая як свіння зрабілася, а то каб з дому выбіралася сама, пакуль яе не выгнаў. Яна, бедная, плача, чаму не пайшла была на дзяржаўную работу, то хоць пенсію сабе вырабіла б...

— А што мы, Зінка, маем з імі супольнае? — перарваў я жончыну скорагаворку.

— Як гэта — што? І ты, як Жора, працуеш у горадзе, а я таўкуся на гаспадарцы. Я мела ў пасагу тры гектары лугу і два — поля. Калі трэба плаціць падаткі, то ў паперах толькі ты стаіш. А дзе маё? Ну, дзе?!

Будзе з тыдзень, як мяне лаяла мая Зінка, што гэта я ўсё забраў, а яшчэ і магу, як той Жора, знайсці сабе новую кабету, а яе, Зінку, спрабаваць выкінуць з супольнае хаты. Нават пачала шукаць сабе новае месца, каб дзе ў нянькі або пакаёўкі наймацца.

— Ну, кепска справы ідуць, — падумаў я. — А вядома, што бабе на старасць гадоў у галаву ўлезе?! Трэба будзе паехаць у Гміннную ўправу.

Войту я сказаў адразу з моста:

— Ведаеце, мая жонка, Зіна, будзе цераз вас са мною разводзіцца.

— А ў чым я вінаваты? — вырачыў на мяне вочы войт.

— На падатквых наказах пішаце толькі маё прозвішча, імя жонкі не дапісваеце. А гэта наша супольная зямля, у ёй жончыных пяць гектараў. Заядае мяне, што я забраў яе пасаг. Думае вось з хаты мяне выганаць або самой уцякаць.

Войт мала не лопнуў ад смеху. А за ім усе працаўнікі ўправы, калі даведаліся пра маю бяду.

— Ну, не перажывайце. Наступным разам паперы будуць на яе імя, — сказаў войт.

Так і было. Бачу, Зінка задаволеная, перакладае „наказ" з аднае рукі ў другую, любуецца.

— Што, Зінка, — запытаўся я скрываючы ўсмешку, — усё цяпер тваё?

— Ага, маё, — яшчэ больш уцешылася мая шлюбная.

— Значыць, гэта ты цяпер мяне можаш выкінуць „на брук"?

— Ну, не такая я ўрэдная, як табе часам здаецца! — засмяялася Зінка і прыціснула мяне да сваіх цёплых грудзей.

**Запісала Аўрора**


# Ніва

**„Niwa"**, ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok, skr. poczt. 149, tel./fax 435-022.

Druk: „ORTHDRUK", Białystok, ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

### Рэдагуе калектыў:

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва". Старшыня Праграмнай рады: Валянцін Сельвясюк.

### Prenumerata:

1. Termin wpłat na prenumeratę na IV kwartał 1997 r. upływa 5 września 1997 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na IV kwartał wynosi 13 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,90 zł, a kwartalnie — 24,70 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

# Ніўка

## Прыпеўкі

*Рок-гурту „Брага" з Гарадка*

Калектыў із Гарадка
Ўсім нам падабаецца,
Я не знаю толькі, чом
„Брагай" называецца.
Як жанеце самагонку,
Брагі вам не выпіваць:
Каравам яе давайце —
Малако будуць даваць!
Як пад'есць карова брагі,
Карысць будзе не адна:
Яна крыху патлусцее
Ды захоча да быка.
Папівайце самагонку,
Будзе весялей спяваць.
Час ад часу вам дык трэба
І гасцей пачаставаць.
Вы паліцыі скажыце:
„Перастаньце ў нас шукаць,
Самагонка памагае
Весялей усім спяваць".
Самагонка учыняе
Вельмі многа ў нас бяды.
Як нап'юцца самагонкі,
Ідуць людзі у бдуды.
Цераз тую самагонку
Яраслаў пакінуў жонку,
Часценька стаў папіваць,
Грошы з хаты выцягаць.
Самагонка вельмі горка,
І аб гэтым трэба знаць,
Хто нап'ецца самагонкі,
Стане баб чужых кахаць.
Дарагія гарадчане,
Я толькі пажартаваў,
Я ж вашае самагонкі
Ніколі не прабаваў...

**Мікалай Лук'янюк**



*Мал. Алега КАРПОВІЧА*

## „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

Гутараць дзве пацыенткі псіхушкі:

— Я апынулася тут, бо не маю ніякай сувязі з маёю адзінаю дачкою: не гаворыць мне, з кім яна сустракаецца па-за домам і што тады робіць.

— А я апынулася тут, бо маю выдатную сувязь са сваёю дачкою: дэталёва апавядае яна мне, з кім сустракаецца па-за домам і што тады робіць.

* * *

Размаўляюць дзве сяброўкі:

— Парай мне, што рабіць; сватаюцца да мяне два мужчыны: адзін з'яўляецца ўласнікам цяпліцы з агароднінай, а другі — гэта настаўнік...

— А каго намерваешся ашчаслівіць?

— Настаўніка.

— Я б таксама выйшла замуж за агародніка.

* * *

— Праўду кажуць, што першая любоў найпрыгажэйшая, — прызнаецца муж жонцы.

— Гэта перавелічэнне, мне і з табою добра.

* * *

Уласнік майстэрні па рамонту аўтамабільных камер згуляў вяселле ў найлепшай гасцініцы горада. Калі мінула поўнач, маладыя падаліся ў апартамент. Зачыніўшы за сабою дзверы, малады наліў поўную ванну вады.

— А цяпер уваходзь у ванну! — загадаў ён жонцы. — І ведай, што калі пакажуцца бурбалкі, шлюб лічу несапраўдным.

* * *

Гутараць два сябры:

— Ці верыш у гаданне варожкі?

— Часткова.

— Чаму часткова?

— Бачыш, адна варожка калісь прадказала маёй сястры, што пазнаёміцца са стройным чыгуначнікам, выйдзе за яго замуж і народзяцца ім блізняты...

— Ну і што?

— Споўніліся толькі першае і трэцяе прадказанні.

* * *

— Каб быць з табою, пераплыў бы акіян, — завярае ёй ён.

— А прыйдзеш заўтра да мяне?

— Калі не будзе дажджу.

## Працяг на сёмай старонцы

Навуковы супрацоўнік Радко Іканомаў ехаў у трамваі. Зморaным позіркам слізгануў па вагоне, як раптам нешта зарабацела яму ў вачах. Проста перад ім стаяў малады чалавек у стракатай сарочцы.

„Адкуль узялася гэта ідыёцкая мода друкаваць на трыкатажы цэлыя старонкі з газет і часопісаў?" — падумаў Іканомаў.

Яго сын таксама прасіў купіць яму штосьці ў гэтым плане. Жах! З'явіліся, кажуць, нават штаны з друкаванымі старонкамі. Якая карысць ад усяго гэтага? Ну, які-небудзь адзін надпіс яшчэ можна зразумець. Але цэлыя старонкі...

Ён пільней прыгледзеўся да сарочкі. На ёй было некалькі фатаграфій, спартыўная рубрыка, вялікія загалоўкі. Сарочка, напэўна, была італьянскай. Іканомаў ведаў італьянскую мову і, прасунуўшыся бліжэй да юнака, паглыбіўся ў чытанне артыкула, які быў надрукаваны на левай лапатцы.

Неверагодна. У артыкуле разглядалася праблема біяхімічнага ачышчэння сцёкавых вод руднікоў каляровых металаў. Якраз над такою тэмай і працаваў Іканомаў.

Малады чалавек прасунуўся ўперад, Іканомаў — за ім. Малады чалавек павярнуўся направа. Іканомаў таксама.

— Прабачце, — сказаў ён, крануўшы маладога чалавека за плячо, — дзе вы ўзялі гэтую сарочку?

— Мне падаравалі, — неахвотна адказаў юнак. — Чаму вас цікавіць, дзе я ўзяў?

— Проста так... — Іканомаў шукаў патрэбныя словы. — Бачыце, абсалютна выпадкова я пачаў чытаць артыкул, які надрукаваны на вашай спіне. І вельмі быў заінтрыгаваны. Справа ў тым, што я якраз даўно працую над гэтай праблемай.

З мяне хопіць гэтых глупстваў у анекдотах і гумарэсках, — сказаў малады чалавек і стаў праціскацца ўперад.

— Я кажу вам чыстую праўду, — захваляваўся навуковы супрацоўнік, праціскаючыся следам. У гэтым артыкуле цікавая навуковая інфармацыя. На жаль, над другою калонкай напісана „Працяг на сёмай старонцы". Мне так хацелася б дазнацца, пра што там пішацца!

— Паслухайце! Гэта ж толькі сарочка, а не газета, — усміхнуўся малады чалавек. — Тут няма старонак, і няма ніякага працягу.

— Давайце перавярнём усю сарочку, — умольна папрасіў Іканомаў. — Нельга прапусціць такі зручны выпадак. Можа, працяг, недзе на грудзях ці жываце?

— Ну добра, чытайце, — сказаў малады чалавек і павярнуўся да Іканомава тварам. Той пачаў прагна чытаць.

**Іярдан ПАПОЎ**

*Пераклад з балгарскай Валерыя БАБЕЯ*

## Сардэчныя ТАЙНЫ

Сэрцайка! Вось ты нядаўна пісала, што хлопец — паскуда, бо прыйшоў павячэраць да сяброўкі тады, калі яго дзяўчына рыхтавалася да экзаменаў.

А што, мо ён заказаў у яе гэту вячэру? Сама хацела, сама і запрасіла. Калі той ці іншы зойдзе да сяброўкі, што жыве ў Беластоку, ды паесць у яе, калі яе маці нарыхтавала, дык лічу, што гэта не грэх. Мо ён прыезджы, а толькі тут вучыцца... Эх, Сэрцайка, без душы ты часамі. А Сэрцайка душу перш за ўсё мець павінна. Бо інакш, да каго тады звяртацца па параду...

А, зрэшты, што да цябе звяртацца, калі і так вядома, што ты бабу бараніць будзеш. Для цябе хлопец — быццам баласт якісьці. А дзеўка што б не зрабіла, ты яе заўсёды апраўдаеш. Шкада табе яе, ці што?

Жыцця ты, Сэрцайка, не ведаеш. Гэта ж зусім звычайная справа, што дзяўчаты прыносяць закуску, а хлопцы ставяць гарэлку. А калі дзяўчына моцная ў кішэні, то і сама патрапіць паставіць.

Гэта табе, даражэнькае, не тое што на вёсцы. Гарадскія кавалеры ў цане. Вазьмі ано пальцам махні, то з вёскі прыляціць нявеста. Ну, хіба што быў бы ён крывы ці сляпы. Але ж і такія свае шчасце знаходзяць, калі маюць свае „валёры".

І скажу табе, мілае Сэрцайка: часамі ад гэтых дзяўчат не адчапіцца. Прыклеіцца вось такая і рабі што хочаш. У нас во адна такая працуе. Усё б гуляла, ды гуляла. Штораз нешта на рабоце наладжвае: то імяніны, то свята, то госці, то хандра ў яе. І закуску арганізуе яна, і саладкае, і штосьці выпіць таксама.

Сустракае аднойчы мяне яе маці ды кажа: „Што вы там робіце, у гэтым вашым бюро? Мая дачка вунь усе агуркі, што я на зіму засаліла, павыносіла. Ды што там агуркі, калі не паспею які кавалак шынкі ці каўбасы ў халадзільнік пакласці, як ужо і няма! А калі спяку якісьці пірог, дык так яго і бачылі...

Я маўчаў, бо і невядома, што было гаварыць. Сяброўка — арганізатар „рабочых" імпрэз някепскі, але каб там бочку агуркоў з хаты вынесла... Калі? Яны ж яшчэ толькі засолены. Але пасля я падумаў, што маці сяброўкі магла гаварыць пра мінулы год. І яшчэ я падумаў, што мо сяброўка выносіць усё гэта не толькі на працу. А што? Дзяўчыне ўжо трыццаць, а час не чакае. Во і робіць, што можа, каб дзе мужа прыхапіць. Я б там да яе нічога не меў.

Старому чалавеку цяжка ўразумець, што сёння — раўнапраўе. Мо калісь так і было, што ано хлопец меў ставіць, частаваць, запрашаць. А сёння? Сёння, калі хлопец ідзе кудысьці з дзяўчынай, дык найчасцей кожны плаціць за сябе, а нярэдка бывае так, што плаціць той, хто мае грошы. А што, мо дзяўчыне карона з галавы зваліцца, калі заплаціць?!.

Я там сваімі грашыма не раскідаюся. Хоча — няхай плаціць. Мае грошыкі ляжаць у банку. А на жыццё шмат не выдаю, бо жыву ў бацькоў. Во буду жаніцца — тады як знойдзеш. Іншыя сябрукі на дзяўчат выдавалі, так усё па касцях і разышлося. А ў мяне — конта. Табе ано кажу: не пашкадуе калісь жонка, што за мяне пайшла. Іншым заўсёды гавару, што не маю на папяросы.

Толькі ты, Сэрцайка, ужо не падумай пра мяне кепска, быццам я такі скумпярдзель. Калі знайду дзяўчыну-кандыдатку ў жонкі, дык я напэўна ёй пастаўлю. Аднак, толькі тады, калі буду ўпэўнены, што грош застаецца ў сям'і. А не — дык і не трэба. Я замнога не ем і не п'ю. Чужога не хачу, але і сваім не мушу дзяліцца. Будзеш мець грошы — дык і ўсё будзе хакей, праўда, Сэрцайка?!

**ДАНІЛА**

Ой, даражэнькі Данілка! Глядзі, бо і зусім сваіх грошай не кранеш: застанешся старым кавалерам. Кожная разумная дзяўчына тээрэтычна павінна цябе кінуць. Гонар не дазволіць ёй ставіць табе ўвесь час, бо падумае, што ты з ёю толькі дзеля таго і ходзіш.

Рэдка сустрэнеш такога цудака, як ты. Пакуль чалавек малады, ён хоча заграбаць сваімі рукамі ўсе радасці свету, а не грошы, захапляцца жыццём і дзяўчатамі, не думаючы, што будзе калісьці, калі ён ажэніцца.

Там, здаецца мне, дзе ёсць рахунак, няма кахання. А валёры хлопца — гэта не толькі тое, што ён носіць у джынсах ці нават у кішэні, а ўсё тое, што маладога чалавека акаляе і што дадае яму прывабнасці: свежасць, шчырасць, сяброўства і дабрыня. Разлік тут робіць кепскую справу.

**СЭРЦАЙКА**